ББК 84Бел7
Ж85

Свет образов и жизненных реалий в новой книге Кастуся Жука предстает в философском осмыслении добра и зла, человеческих приобретений и потерь. Автор пытается разобраться, почему гражданская активность одних наталкивается на пассивность и халатность других, почему игнорируется родной язык, притупляется историческая память, культивируется равнодушие к культурному наследию своего народа. Остро ставятся в книге морально-этические и социальные проблемы, которые требуют неотложного разрешения.

Ж $\frac{4702120202-082}{М 302(03)-91}$ 54—91

ISBN 5-340-00644-1 



**Агонь пладаносны зярнят, далоняў і слоў.**
**Полымя радасці ўспыхнула,**
**і горача кожнаму сэрцу.**

***Поль Элюар***





Дарога ад парога
Не заўсёды роўная:
То ям-ухабін многа,
То блытаніны рознае.

Ды цепліцца надзея:
Жыццё, што мне адпушчана,
Пражыць усё ж сумею
З душой — нядрэмнай пушчаю...



Калі адшчыруе над кветкай пчала,
Мураш сваю рупнасць у працы спатоліць —
Работа мяне прыкуе да стала.
Я стану рабом. І забуду пра волю.

І будзе кідаць мяне рэчка ў віры.
І будзе пярун спапяляць шматразова.
І сэрца згараць будзе — і не згарыць.
Так ноч прамільгне. І народзіцца слова.

Яно мне падорыць і сон, і спакой,
Дазволіць забыцца на рабскую долю.
І стане пакутная песня — маёй.
А я стану песняй — як вецер у полі.

* * *

І забываюцца раны,
Што ў сваім сэрцы нашу,—
Гойна, праменна, расяна
Ранак ступае ў душу.

Лапік нязжатага жыта
Хіліць калоссе да ног.
Любае жыта, скажы ты,
Хто твой цяпер Белабог?

І загудзела, жывое,
Быццам зайграла сурма:
«Многа багоў нада мною,
А Белабога — няма».

## АРАКУЛ

Мне на кнізе жыцця
паваролсыць стары чалавек.
І пайду ў белы свет.
І забудуся на варажбу я.
Толькі ўспомню старога —
спаўна нацярпеўшыся здзек,
І астатак жыцця —
дабраце да людзей ахвярую.
І няпомнасць пакіне мяне.
Стану помніць я ўсё:
Ад юдолі дзіцячай —
да ўзлёту душы і гібення.
Зазірну ў даўніну я,
гадоў расхінуўшы крыссё,
Каб пабачыць і там,
як жылі да мяне пакаленні.
Хто пайшоў на галгофу...
Хто век свой пражыў без клапот...
Хто паклаў свае сілы,
каб любай Айчыне аддзячыць...
Гэта ўсё мае продкі,
народа майго радавод,
Босы след майго прадзеда,
што не астыглы, гарачы.
Здасца мне
не пустыняю мёртваю той іншасвет,
Дзе кіпела жыццё,
як віно ў перапоўненых бочках.
Гэта там, у вяках,
пачынаўся і мой першаслед,
У вірах бурапенных гадоў,
а не недзе наўзбочку.

Гэта там
зачыналася тайна славянскай Русі —
Гарадоў нараджэнне, жыццё,
спусташальныя войны...
Гэта там праліваліся слёзы
буйней ад расін,
Дух народа
лунаў над абсягамі
сокалам вольным.
Карані маёй мовы
учэпіста там прараслі,
Стуль бяруць свой пачатак і песні журбы,
і літанні.
І пакуль
жыць народу майму
на збалелай зямлі,
Мая мова ніколі
памершай латынню не стане.
...Барадаты сівы чалавеча,
стары варажбіт,—
Мне яшчэ да высноў тваіх
часта і доўга вяртацца.
П'ю нябёс Беларусі
густы пракаветны блакіт,
Быццам кратаю гліпт,
што свяціўся ў старога на пальцы.



Свяжак зямных дарог,
Мой неадчэпны князь!
Ты для мяне збярог
І пыл, і золь, і гразь.

Ад спёкі знемагу —
З вышынь наклічаш дождж:
З табой нага ў нагу
Пакрочым басанож.

Зялёнай навіной
(Бярозкай ля сяла)
Спатоліш мой настрой,
Як смагу піяла.

Да рэчкі пазавеш —
І... ўдарыш па спіне:
У Нёман акунеш,
Гарэзлівы, мяне.

Заплачаш, як дзяўчо,
Мяне ўвёўшы ў зман.
І сядзеш на плячо
Спачыць, нібы арлан.

Як падружыцца змог
З нястрыманым — табой,
Свяжак зямных дарог,
Князь неадчэпны мой?



На крылах ветру палячу
У край садоў, у край акацый.
Трымценнем сэрца заплачу
За права з Нёманам спаткацца.

І абнадзею зноў сябе
Святлом нябёс, глытком азону...
А смутак сэрца апаўе,
Палечыць доктар — бор зялёны.



Што ў грудзі мне ломіцца —
песня? трывога? адчай?
Віхляе сцяжына.
Напоўнена сонцам паветра.
Стаяць верасы ў задуменні,
цвіце іван-чай —
Буяе узлесак
квяцістымі травамі лета.

Адчуць мне ўсё гэта,
убачыць,
здзівіцца,
пазнаць—
Як многа для гэтага часу
і здольнасцей трэба!
Глядзі,
як галінкі увысь
пацягнула сасна.
Глядзі,
як птушына
рассекла грудзьмі сваймі неба.

Няма тут чужога.
Усё тут да болю сваё:
І сойка,
і дзяцел,
і звонкае вохкае рэха.
Арэшына крукам
сагнула дубец-пугаўё —
Ёй цяжка трымаць
набрынялыя чучкі арэхаў.
Пульсуе крынічка.
Над ёю — з бяросты карэц.

(Так хораша мне тут,
на ўзмежку з Заходняй Еўропай.)
Цвыркоча цвыркун.
Пад нагамі падушкай — сівец.
Ды выстраліць шыльда вось-вось:
«Стой: далей — ізатопы!..»



Ад станцыі «Юнацтва»
Я рушыў без клапот
Да станцыі
пад назвай
«Трыццаць год».

Я — імяніннік!..
Колы
Адстукваюць гады.
А думка лезе ў голаў:
«Ужо не малады».

А думка павучае:
«Умей ашчадней жыць:
На электрычцы часу
Будзь мудрым, пасажыр...»



Аднастайна
прыходзіць туга па табе,
родны край.
Аднастайна прыходзіць і радасць,
якой ашчаджаю.
І шугае любоў майго сэрца
за небакрай.
І слязіна спадае з вачэй:
дзякуй, родны мой краю.

У сутонні лясным,
на вясновых адталых імхах,
На сцяжыне,
таптанай і коньмі, і палазамі,
Я хачу заблудзіцца.
І будзе ганебны той страх,
Калі я забаюся
падужацца ў поўнач з вятрамі.

Дыхай, дыхай, праталінка.
Ты абагрэла мяне.
А вятроў не баяўся ні ў студзені я
і ні ў лютым.
Як агеньчык,
вавёрка ізноў нада мной прамільгне —
І цяплом гэтым я
буду доўга яшчэ ахінуты...

І заўсёды,
куды б ні паехаў,
куды б ні пайшоў,
Хоць на полюс далёкі,
дзе пекных не ўбачу дзівосаў,

Я [redacted] сабой забяру
тое, што назаўсёды знайшоў —
Гэту ціш баравую,
блакітныя нашы нябёсы.

Вырастае падлесак —
равеснік дзяцінства майго.
Трыццаць тры яму сёння —
а мне з ім не мерацца ростам.
І шугае агонь,
маёй памяці ўзвейны агонь.
І няпроста мне жыць.
А памерці — яшчэ больш няпроста.

Гэтак мала знайшоў,
болей — блізкага ў свеце згубіў:
Сёння — я жабраком роднай мовы,
вясковай прапіскі.
Але дыхаюць грудзі, і стукае сэрца —
любі
Тое,
што захавалася
ў думках тваіх ад калыскі.

Аднастайна
прыходзіць туга па табе,
родны край.
Аднастайна прыходзіць і радасць,
якой ашчаджаю.
І шугае любоў майго сэрца
за небакрай.
І слязіна спадае з вачэй:
дзякуй, родны мой краю.

## МЁД

Мудрай прамовы
Мёд залацісты,
Поўныя соты
Мне даспадобы...

*Максім Багдановіч*

П'яніць духмяны мёд,
Са смакам піты ўсімі...
Пакуль жыве народ —
Жывеш і ты, Максіме.

Жывеш як сум, як боль,
Як дум наканаванне,
Дзе радасцю, журбой —
Працята ўсё дазвання.

Салодкі мёд — гарчыць,—
Ды п'юць яго з ахвотай...
І шмат таму прычын,
Што не пусцеюць соты!



А дзянёк памалу патух.
І кароў збірае пастух.
Ён па клічках ведае ўсіх:
Гэта — Манька, тая — з Кастусіх.
А Рагулю — можна адпусціць,—
Ёй дадому роўненька брысці:
Ні ў авёс не трапіць, ні ў ячмень,
Ведае Рагуля свой пругмень [1],
Дзе даесць, дап'е сваё, дальбог,
І ля саду ляжа на мурог:
«Гаспадынька, ты прыходзь даіць,
Малачка ў наетае прасіць...»

У маленькай вёсачцы штодзень
Па каровах — судзяць пра людзей...

[1] Пругмень *(дыял.)* — лужок ля прыгумення.

## ПЛАДАНОСНЫ АГОНЬ

Я ніколі не думаў,
што прыйдзе такая пара —
Заструменяць радкі,
быццам лівень, што лье як з вядра,
І зацепляць пачуцці
агонь пладаносны ў душы:
Не алоўкам —
расчуленым сэрцам,
паэце, пішы.
Я ніколі не думаў...
Ніколі пра гэта не сніў...
Ды ў вушах каласы шапацяць
развярэджаных ніў,
Грае хвалямі Нёман,
спявае Дняпро уначы,
Быццам просяць:
«Спявай жа і ты,
не маўчы...»
Можа б, я і маўчаў,
але ж столькі мне трэба сказаць,
Што і радасць асветліць не раз —
і азмрочыць сляза.
Столькі трэба пражыць
за сябе — і за тых, што ў зямлі,
Што,
аддаўшы жыццё,
нам і дзецям жыццё збераглі.
Не,
не буду маўчаць я,
пражыць маўчуном не хачу,—
Я Радзіме прысягу даваў —
згоду прашчура чуў,

Родным нівам сваім,
прынямонскім дрымучым лясам,
Гарадам
і сялібам вясковым
пакляўся я сам:
Покуль стукае сэрца,
а свет — на крутым віражы,—
Не маўклівым смаўжом —
ча-ла-векам павінен я жыць.

## МАТЧЫНА ПЕСНЯ

Помню: мама ў маленстве спявала —
І хіліліся лозы нізка,
Падпявалі жытоў цымбалы,
Дзеці цішыліся ў калысках...
А сягоння маміна песня
Разам з мамай пайшла на пенсію.

«Кацілася чорна галка
Па бару, па бару,
А за ёю ясны сокал
Паблізу, паблізу».

Што ж заціхла ты, песня-пястушка,
Над аблогамі, над наваколлем?
Заспявала дзяўчына-пастушка —
Толькі песня душу не няволіць.

Не ад сэрца ідзе тая песня,
Хоць у зыках — адчай Пугачовай.
Я стаю, задуменны, ля весніц,
І мне іншыя чуюцца словы:

«Праляцеў я ўсе апушкі,
Яшчэ й лес, яшчэ й лес,
Не знайшоў такое птушкі,
Як ты есць, як ты есць».

Помню: мама ў маленстве спявала...

## КУРАПАТЫ

Як можна было зрабіць
цёмным,
глухім,
сляпым
цэлы народ,
не, цэлыя народы
ачмурыць,
абязглуздзіць,
знікчэмніць,
каб, нават ідучы на плаху,
паміраючы недабітымі ў крутаярах,
гібеючы ў турэмных засценках,—
лепшыя іх сыны
непахісна верылі
ў мудрасць «правадыра ўсіх народаў»?
Жахаюся ад адной думкі:
«Сталін — з намі!»
Чалавек,
які трымае ў руках шыльдачку
з такім надпісам,—
хто ён?
Няўжо ён ухваляе тыранію?
Няўжо ён прагне новай крыві?
Магчыма, ён вар'ят?
Не. Ён проста сталініст.

## ЦЁТКА ПРОСЯ

Не дапросішся, як ні прасі,
Нават снегу з двара
у цёткі Просі,
Хоць на ўсёй, можа, Белай Русі
За яе шчадрэй — не знайшлося б...

Частавала вяскоўцаў, гасцей
І парэчкай, і белым налівам:
Што ў гародзе, у садзе расце —
Аддавала з усмешкай шчаслівай.

«Цётка Прося! Сланечнік парос?..»
«Цётка Прося! Мне б кветак-пястушкаў...»
«Цётка Прося! Я бэраў натрос...»
— Ешце, дзеткі...
— Бярыце...
— Частуйцеся...

Сёння ж — Просю ніхто ўжо не ўпросіць...
Як жа мы без цябе, цётка Прося?

## ПАГАРЭЛЬЦЫ

Па вёсках хадзілі калісь пагарэльцы,
Прасілі хто хлеба, хто сала, хто грошай.
А іх, перш за ўсё, запрашалі пагрэцца,
А іх прысуцешвалі словам харошым.

І толькі пасля — накарміўшы, сагрэўшы,
На плечы накінуўшы фрэнч ці шаранку,
Дарылі ў дарогу няхітрыя рэчы,—
Хто нож, хто відэлец, хто міску, хто шклянку.

А разам — і хлеб, і, вядома ж, да хлеба,
Давалі парады, куды лепш падацца,
Змагчы як юдолю, як жыць далей трэба,
Лацвей да якой прызвычаіцца працы.

Нямоглым жа — ставілі дом талакою,
Дабром і скацінай так-сяк надзялялі.
І ўжо адступалася гора людское,
Пагодней рабіліся сцюжныя далі.

Мне ў сэрца з дзяцінства ўсё гэта запала
І зараз — свярбіць незагоенай балькай...
Людской жа спагады на свеце — так мала,—
Не стаць бы ўсім нам пагарэльцамі толькі!



Над зумкаю песняй пчалы
Суцішу дыханне, як вецер.
Мой свеце, такі ты малы!
Такі ты вялікі, мой свеце!

Загадкаю, тайнай жыву,
Суздром і смяюся, і плачу.
Хоць снег забяліў галаву,
Мне бачыцца ўсё — па-дзіцячы.

І бог мне, як кажуць, суддзя.
Відаць, я палоннік наіву.
А прагай жыву пачуцця —
Дык тым і шчаслівы.

* * *

Смуцен бор векавечны ўначы.
Пахне прэласцю вецер асенні.
То заціхне, то зноў закрычыць
Птах
у сховах лясных сутарэнняў.

Прабяжыць па спіне халадок —
Штосьці ёсць ад адчаю ў тым крыку:
Ці палохае птах незнарок?
Ці сваю так выказвае крыўду?

Ды трымае нябачная ніць
Маё сэрца. Забыў я пра спешку.
Проста: хочацца пахадзіць
Басанож па няходжаных сцежках.

## БЯДА

Паляць грудзі мне вогнівам
скруха, адчай —
І штоноч
я крычу ад кашмарнага сну.
Родны край, любы край,
ты мяне прабачай,
Што бяду тваю
сэрцам не захінуў.

Спудна стукае ў скроні —
набатам! —
жуда,
Працінае да болю,
вярэдзіць душу.
Чую:
прашчур варочаецца
на кладах,
Праз магільныя травы
адчуўшы жуду.

Бачу:
ў вёсках сіротна
стаяць жураўлі,
Плачуць зернем
нязжатыя ў зоне жыты,
А камбайны не йдуць і не йдуць на палі...
І не вяжуцца думкі,
што немачны ты
Перад гэтай стыхіяй,
лядашчай, як мор,
Перад гэтай атрутай,
нябачнай зусім.

Тут на гора
не быў і ў вайну недабор,—
Гора й зараз
прайшлося па Белай Русі.

Ад някошаных траў
волка пахнуць лугі,
Па начах — бэры звоняць трывожна ў садах...
Край палескі,
край, сэрцу майму дарагі,
Ты сабою прыкрыў
страшны ядзерны жах.

Знаю: ты ажывеш, запульсуеш...
Але
Ад няпрошаных дум — не схавацца нідзе,—
Будзе моцна балець,
будзе доўга балець
Гэта скрушная памяць
у сэрцах людзей.

* * *

У стогадовы мой юбілей
Прашу, крытыканы,—
не ліце ялей,
Бо ўстану [illegible] магілы тады —
я такі! —
І вырву
няшчырым вам
языкі.

## ЛЁС

Мой сябар не хадзіў на галаве:
Жыў — як святар, адпачываў — у Крыме.
А я — кабак наведваў, піў глінтвейн,
Ляпіў снегавіка ў двары з малымі.

Быў закадычным ён мне сябруком,
Яго манерам — часам я зайздросціў.
...Стаю і плачу — блудны сын бацькоў —
Перад магілай сябра на пагосце.

## РОЗДУМ У АРХЕАЛАГІЧНЫМ МУЗЕІ

Быў багацейшы прашчур за мяне.
Хоць жыў калісьці
у каменным веку,—
Насіў штодня
аўчыну на спіне,
Меў чыстымі паветра, долы, рэкі.

Ад стром Дняпра — да прынямонскіх стром
Шатром яму былі
лясы, нябёсы.
А жыўнасці было пад тым шатром,—
Звяр'ём бары кішэлі і алёсы.

Хапала ўдосталь рыбы ў ручаях,
У травах — птаства,
ў зараслях — арэхаў.
Сцюдзёная крынічная бруя
Дарыла ў спёку радасць і уцеху.

І дзікі мёд ён піў не толькі ў сне.
Быў багацейшы прашчур за мяне.

## ТРЫВОГА

> Ты з вышыні у твар чужынцам кінуў
> Нянавісцю палаючае сэрца.
>
> *М. Аўрамчык*

Чаму, нібы звон,
Гайдаецца неба шацёр?!
Нацэлена ў сон
Ракеты глабальнай асцё?!

Раз'юшанай сілай
Паветра ўзарвана ў цішы —
Не злосцю тратылу,
А злом чалавечай душы?!

Бацылу разносіць
Па свеце спалелы маньяк?!
Стукач у блакноце
Запісвае,
Што, дзе — і як?!

Ах, што гэта, людзі,
Надумаўся хцівы вар'ят?!
Каго ў правасуддзе
Саджае ён:
Подкуп ці блат?!

Трубіце трывогу,
Пакуль не скрываўлены шар!
Трубіце трывогу,
Дзе злая гняздзіцца душа!

Для тога ж, хто смерці
Жадае тваёй і маёй,—
Аддам сваё сэрца —
Няхай захлынецца крывёй!

* * *

Не абміні мяне, вясна!
Ступі ў душу
чароўнай феяй,
Запалані
зялёнай веяй,
Ашчодры радасцю спаўна.

Зімовай прыхамаці дух —
Залеваю скапыць і вылупцуй,
Ляйчынамі маланак вылейцай,
Заклякласць —
перайнач у рух.

Маім памкненням маладым
Дай лёт,
адчай
і голас зычнейшы...
Узяўшы гэта, не пазычыўшы,—
Мне пець і пець на ўсе лады!

2 Зак. 890

## СУВЯЗЬ

Які адметны шлях —
Наўкол ажыннік спее,
І Нёман — партупеяй
Ва ўзлеску на грудзях.

Забудзься на даўгі:
Пазыч зуброўкі ў лета —
І з песняй неадпетай
Плыві да той вяхі,

Дзе смолкаў дух руды,
Дзе смачны пах азону,
Дзе радасці і звону —
На ўсе стае гады.

Мудрэй!
А памудрэў —
Тады, як прашчур, нема
Чапай галіны дрэў,
Што п'юць зямлю і неба!

Хай кругам галава
Ідзе ад пахаў, зыкаў —
Ты слухай, як трава
Спявае, што музыка.

І зведвай гэты дзень.
І гэты бор адзіны.
Нічога саладзей
Няма,
Чым пах радзімы.

## БЯЗДУШНАСЦЬ

Бяздушнасць параджае ў свеце зло.
Бяздушнасць не прымае дабраты.
Што ёсць на свеце прыкрае, было —
Ва ўсім, бяздушнасць, вінавата ты.

Прыгрэла служкаў подласці, маны
І цешышся сабою з году ў год,
Гатова ўзяць за горла шар зямны,
Адно б закрыць навечна праўдзе рот.

Мне ненавісны твой смярдзючы бруд,
Замешаны на здрадах, на крыві.
Як шашалем паточаны аруд,
Ты станеш тлом... Жыві, Зямля! Жыві!

У дабраты ёсць многа прывілей,
Адна з іх — вера ў светлы дзень жыцця.
І ты, бяздушнасць, згінеш, як сугмей,
Перад людской лавінай пачуцця!



Ходзіць дзед за плугам — лунь лунём,
Лёгенькі, малюсенькі і шпаркі.
І, услед за ўспараным канём,
Босых ног пабліскваюць маланкі.

— Добры дзень,— гукаю,— землячок!..
Толькі дзед наўрад ці чуе гэта.
Ён няўзнак паправіў паясок
І бяжыць, бяжыць, нібы падлетак.

## ПРА ХЛЕБ

Хлеб на зямлі бацькоў
Заўсёды даваўся потам.
І сёння у землякоў
Найпершае слова — работа.

Хвала табе, сонечны дзень,
За радасць на твары ратая,
За добрае зерне надзей:
Пасеянае — прарастае.

Не трэба зямлі біць чалом
І ў ладкі, ўхваляючы, пляскаць,
Заместа ялейных слоў —
Аддзяч ёй пяшчотай і ласкай.

Бо заўтра — чакае ізноў
І радасць цябе — і работа:
Хлеб на зямлі бацькоў
Заўсёды даваўся потам.



У лясным закутку ціхім
Я люблю паслухаць спевы
Закаханае ласіхі,
Сойкі ў вершаліне дрэва...

Я дзівак. І мне без песень
Не пражыць — паверце, людзі!
Колькі сэрца іх умесціць —
Столькі й радасці прыбудзе.



Нясвіжчына мая!
                    Мае лясы!
Сустрэчы дарагой, як сябру, рады:
Над галавою — ліўняў галасы,
Святло маланак і грамоў рулады.

Чужым сябе ніколі не лічыў
На сцежках, дзе асот — і той не колкі.
Тут хіба змог бы
                    падманіць я чым?
П'янлівы пах які разносяць зёлкі....

Нямоглы буду нават, ледзь жывы —
А дабрыду, а дапаўзу дадому,
Каб пакланіцца
                    краю дарагому —
І там спачыць, дзе прашчур спіць сівы...

Стуль прарасту
                    не яткай крапівой —
Нядократкай, анюцінай слязінкай,
Валошкай кволай, тонкай чарацінкай...

Я застануся ў іх — самім сабой.



Не асірацеў мой дом:
Я з гасцямі — вечна ў згодзе...
Што ж ты, Песня, не заходзіш?
Не сядаеш за сталом?

Мы з табой здаўна сябры.
І, у лепшую часіну,
Я табе, нібы сястры,
Выкладаў усе навіны.

А бывала — у палон
Ты мяне надоўга брала.
І адпрэчвала мой сон.
Кроў у жылах бунтавала.

...Голас твой здалёку так
Чуцен мне — і я ў адчаі.
Не цябе пакуль, бядак,
А надзею прыручаю.

* * *

Звяры ідуць на вадапой,
Назад вяртаюцца звяры:
У царства елак, царства хвой —
Яны іх вечныя сябры.

Звяры ідуць на вадапой
Па зёлках мяккіх, па расе.
Звяры ідуць на вадапой,
Але вяртаюцца — не ўсе!

## У МІКАЛАЕЎШЧЫНЕ

Выпраменьваюць леты
Воблік дзядзькі Якуба.
Дзе ты, лецейка, дзе ты —
Час набытку і згубаў?

Можа, там, за пагоркам,
На крыле перапёлкі?
Можа, там, за пагостам,
Дзе губляюцца вёрсты?

Па-над тынам, парканам —
Птушак лёт непакорны.
Як адкрытая рана,
Смерць дагэтуль — дакорам.

Перад сумам аблокаў,
Перад выспелым летам —
Над зямлёю высока
Льецца голас паэта
Песняй жаўранка...



Героі
Не забудуцца ў жыцці,
Пакуль, як дзіды,— абеліскі ў неба,
Пакуль
Дазвол крываўніку расці
Дае
    зямлі маёй святая глеба...



Недзе ў далечы ад вуліц,
Мітусьгі, рэклам, жуды,—
Хмара ў небе перакуліць
Чашу, поўную вады.

І пральецца на паляны,
На тартак, на нечы плашч
Дожджык, ад азону п'яны,
Бы ад музыкі скрыпач.

І ўдыхне душой пявучай
Нехта водар, як нектар.
І яму не надакучаць
Ні пагода, ні тартак.

## СТАТЫСТЫКА ПАДСВЯДОМАСЦІ

На сто разумных — ёсць адзін вар'ят.
На сто шчаслівых — нехта нешчаслівы.
На сто добразычліўцаў — хцівец-гад.
На сто сумленных — падхалім ліслівы.

Адных — узносяць пры жыцці да зор,
А прыйдзе смерць — ім забыццё адмераць...
Другія — пры жыцці йдуць на касцёр,
Але жыве вякі іх праўда, вера...

Вялікая ты, матухна Зямля.
І твае дзеці — розныя такія.
Адны — кладуцца спаць, як немаўля,
Другіх — па дому мучыць настальгія.

Дзівацтвам,
крыважэрнасцю,
хлуснёй,—
Усім, Зямля, дзяцей ты надзяліла.
Не навучыла толькі жыць сям'ёй,
Не ўсіх дабру служыць ты навучыла.

Але ж хіба твая у тым віна,
Што дзесь
вяльможа пацірае рукі,
А дзесь
крывава шчэрыцца вайна
І цэлыя народы — церпяць мукі?!

Дзе лёс бядовы — там паўсюдна плач.
Дзе слоў ялейнасць — там заўжды няпраўда.
Жывуць слуга народа й паслугач.
Ля вернасці — заўсёды поруч здрада.

За песімізм мой стогн ты не прымі,
Зямля мая, карміцелька святая:
Хачу, каб людзі ўсе — былі людзьмі,
Хачу, каб крыважэрцаў знікла зграя.

Табе я спавядаюся ўначы,
А дзесьці праўда
бой вядзе з маною,
Балююць хціўцы, быццам крумкачы,
І дражняцца, нікчэмныя, вайною...



У вячэрняй смузе за сялом,
Быццам прывід, паўстане бяроза...
І напоўніцца сэрца святлом,
Засяваюць душы тваёй крозы.

Знерухомся, суцішся, замры
У напоўненай тайнаю цішы.
Чуеш: лісце трапеча ўгары —
Сонных птахаў лагодна калыша.

Чуеш: п'яна чаруюць цябе
Пахі траў пракаветнага луга.
І рачулка з табой — не ў журбе:
Захлынаецца радасцю — слухай...

Час развагі... Хады праз гады...
Час вяртання ў маленства нанова,
Дзе твае не забыты сляды
Ні травой, ні сцяжынкай вясновай...



Выракаемся мовы матчынай,
Выракаемся пакрысе...
І такую губляем спадчыну,
Што жахаемся потым усе.

Аблыселыя, пасівелыя,
Адчуваць пачынаем здаля,
Як бруіцца яна, нясмелая,
З вуснаў нашых дзяцей спакваля.

Вось тады яе п'ём, ёю дыхаем
І стараемся зразумець...
Але мова матчына ціхая —
Не аркестраў крыклівых медзь.

Толькі той, хто не выракся кроўнае,
Можа вызнаць яе да дна.
Бо яна, як і ўсе,— першародная,
З жыватворных крыніц яна.

Мова мужная, гераічная,
Будзь для сына — як хлеб і соль...
Старажытная, таямнічая,—
Пакланіцца табе дазволь.



Пра подзвігі так любяць гаварыць,
А подзвіг — жыць на гэтым дзіўным свеце,
Таптаць расу, піць прахалоды вецер,
Вітаць святло пунсовае зары...
Калі над светам ядзерны абух
Занесены —
І дымам пахне люта,—
Перамагчы шалёную атруту —
Галоўны подзвіг наш, мой верны друг.



На радзіме маёй зор даспелых агні
Загараюцца рана, ой рана!
І туман раз'язджае на белым кані,
Быццам конь той, надзіва рахманы.

Я пазычу ў туману на ночку каня
І ў галопе — забуду напасці.
І мяне не пазнае уранку радня,
Столькі будзе ў вачах маіх шчасця.

Цыганом я на сене прылягу спачыць,
У аўчыну захутаўшы плечы.
І прысніцца мне музыка дзіўнай начы,
Конь былінны — і зорнае веча.

## ДВА ПАДЫХОДЫ

— Не заўсёды верадь
Людзям шчырым,
Больш лісліўцам верадь
Ды пранырам...

— Праўду кажаш,
Дарагі суседзе:
Покуль не падмажаш —
Не паедзеш.

## АНСАМБЛЮ «ЧАРАЎНІЦЫ»

Можа, гэта толькі сніцца,
Падалося? —
На эстрадзе — чараўніцы,
Песня з водарам калосся!..

Беларуская, лясная,—
Анікога не мінае.
І мелодыя лунае —
Неляная.

Дайце, хлопцы, падступіцца!
Дайце, хлопцы, прычасціцца!
Не змаўкае звон крыніцаў...
Радасць, весялосць бруіцца...
Ай дзяўчаты!
Ай сястрыцы!

Не надзівіцца...



Позняя, пранізлівая восень.
Скрозь імжака, ветру крутаверць.
Падаюць гнілыя дзічкі вобзем,
Зрэдку — барабаняць аб павець.

Курыць бацька, думаючы думу,
Пазірае ўдалеч, на клады...
І ў вачах ягоных столькі суму,
Столькі адзіноты і жуды...

## ЦАЦКА

«Купі пісталет»,— просіць сын
І цягне мяне ў магазін.
І я, безумоўна, купляю
Цацку, якая страляе.

«Навошта табе гэта цацка?» —
Прыходзіць пытанне пасля.
І сыну карціць прызнацца:
«Хачу у вайну гуляць!»

«Ах мілы, наіўны хлапчук,
Гуляў бы ў што іншае лепей».
А ён: «Навучыцца хачу
І з правай страляць — і з левай...»

І я разумею малога —
Яму нават сніцца гульня.
Яшчэ
Ён не цяміць нічога
У слове «вайна»...

* * *

Прысяду на курган.
І памаўчу аб родным.
І чорны, як груган,
Нахлыне ў думкі роздум.

Няўжо вось так і мы,
Свой завяршыўшы будзень,
Як снег пасля зімы,
Адыдзем — і не будзем?

І нейкі там дзівак
У веку дваццаць энным
Зажурыцца вось так
Над прахам безыменным?

## ВЯЛІКІЯ

*Максіму Танку*

Да вялікіх прыходзяць на споведзь —
Расказаць пра няшчасці ці беды,
Ці пра годнасць, што ўкрасці хацелі
Кручкатворы і хціўцы-прайдзісветы,
У якіх замест воблікаў — маскі.

І вялікім выкладваюць душу,
У глыбінях якой — свет бязмежны,
Не, Сусвет памяшчаецца цэлы.

Так зямлі спавядаюцца дрэвы,
І трава, і малыя істоты
У часіну знямогі, адчаю...

Да вялікіх прыходзяць на споведзь —
І вялікія слухаюць чуйна,
Бо за праўду — гатовыя біцца,
Не шкадуючы нерваў і часу.

Ці не ў гэтым вялікасць вялікіх?



Чалавечай шчырасці зямной
Змалку быў навучаны ад мамы.
А вучыла мама — прастатой,
Дабратой і ласкаю — таксама.

Вырас — і займеў сваіх дзяцей.
І цяпер, як кажуць, сам з вусамі.
Толькі ўсё часцей, усё часцей
Еду за парадаю да мамы.



Цячы, рака мая, цячы —
Праз лес, праз ціхую даліну.
Насі паромы на плячы,
Будзь месцам гульбішчаў птушыных.

Хай клёнік малады шуміць,
Узбегшы на круты твой бераг,
І каня прагна просіць піць,
Гуляючы над хваляй з ветрам.

А ты цячы, мая рака,
Цячы, як сто гадоў дагэтуль.
І будзе рыбка ў рыбака.
І будзе песня — у паэта.

## ПЛАЧ НЕМАЎЛЯТАЎ

З дня нараджэння,
з першай хвіліны —
Крок у жыццё самы чысты,
нявінны.
Крык самы першы,
самы дзіцячы.
Плача паэт —
геній будучы плача.
Плача даярка.
І плача скрыпач.
Плачуць
пастух, і настаўнік, і ўрач.
Плача,
прыкрыўшы далонькаю твар,
Веку наступнага
сталявар.
Шэф рэстарана
заліўся слязьмі.
Член акадэмій
сямі ці васьмі...
Будучы фізік —
і вечны студэнт...
Баскетбалістка —
і прэзідэнт...
Верныя служкі алаха
і бога...
Дойліды, цеслі...
Я рад, што вас многа!
Плачце!
Крычыце у тысячы глотак,
Планавікі,
хлебаробы,
пілоты!

І астраномы,
і касманаўты —
Светла крычыце,
Зямлі немаўляты!
Покуль
ля мамаў ваш голас мацнее —
Цепляць зямляне ў сэрцах надзею,
Што
*не замкнецца жыцця белы свет*
*Вогненным смерчам крылатых ракет...*

## ПАХ РОДНАЙ ЗЯМЛІ

І мы з табой надыхацца прыйшлі
Зямлёю роднай, каб адчуць нанова,
Як пахне скіба свежае раллі,
Пад сонцам разамлелая вясновым.

Ні з чым не параўнаеш гэты пах.
Ён, як бальзам, надзейна здыме стому.
І кожны з нас шчаслівы, быццам птах,
Што з выраю вярнуўся зноў дадому.



У роднай хаце — я не гаваркі.
У роднай хаце — я слухач бацькоў.
Ад гарадской уцёкшы талакі,
Дамоў па слова еду жабраком.

Хоць маю хлеб, да хлеба на стале,—
Магнітам цягне да бацькоў мяне:
Пяецца й песня дома — весялей,
Званчэй і слова — ў роднай старане.

Стамлёны не бядой, не прыкрым злом,
А вечнай спешкай, вэрхалам машын,
Душой адпачываю за сталом —
Шчымліва-светла, цёпла на душы.

І ціха. Толькі мамы гамана
Ды запытанні бацькі, як набат...
«Сынок, а праўда, дзесьці йдзе вайна?»
«Сынок, а праўда, што забітых шмат?»

На ўсё, на ўсё я адказаць ім рад,
Наслухацца вясковых рад навін...
«Сынок, калі ж збіраешся назад?»
«Чаму прыехаў без сям'і, адзін?»

У роднай хаце — я не гаваркі.
У роднай хаце — я слухач бацькоў.
Відаць, ва ўсіх уцёкшых лёс такі:
Дамоў па слова ехаць жабраком.

## ВЫСНОВА

Падманлівай дабраты
Бойцеся больш, чым злосці.
Падманлівай дружбы масты —
Будуюцца ў маладосці.

А пройдзеш па гэтых мастах,
Калі ўжо табе пад сорак,—
І сэрца ахопіць жах:
Слабыя ў мастоў апоры!

Вось-вось іх падмые вада
Плётак людскіх, нагавораў.
І прыйдзе тады бяда,
Цяжка якую агараць.

А ўсё з-за тваёй прастаты,
З-за добрай тваёй натуры...
Падманлівай дружбы масты,
Павер мне, жыццё — разбурыць.



На экстрасенсаў моліцца народ —
На мецэнатаў душ, настрою, сексу...
А што, калі у полі — недарод?
Ці дапамогуць цуда-экстрасенсы?

А што, калі душа баліць па тым,
Чаму сто год хварэць наканавана?
Не, экстрасенс. Не бог ты. Не святы.
Не вылечыш зямлі скразныя раны...



Я не зайздрошчу, час, тваёй хадзе.
Пацвердзіць могуць ісціну газеты:
Ужо ў ратаі мала хто ідзе —
Ідуць у касманаўты, у паэты.

Да гарадоў вялікіх і малых
Спяшаюцца кагорты маладыя.
І хоць парою б'е жыццё пад дых —
Па вёсцы іх не мучыць настальгія.

Далей, далей ад родных ніў і хат,
Ад родных вісажараў, рэк і плёсаў...
Чынушай стаць нягеглым кожны рад,
Адно б ад плуга збегчы, ад пракоса.

Цябе не вінавачу я ва ўсім,
Мой час, мой век нястрымана-імклівы.
Але хачу як сын твой папрасіць —
Дбай пра зямлю, пра хлебадайнасць нівы.

Бо, покуль прыйдзе робатаў пара,
Якія ступяць на прыроды ўлонне,—
Каму ж скародзіць поле і араць?
Каму пра хлеб надзённы думаць сёння?

3 Зак. 890



*Брату Івану*

Мы даўжнікі з табою, брат,
Прад суайчыннікамі тымі,
Што спяць, палёгшы маладымі,
Далёка ад радзімых хат...

Нам жыць за іх да скону дзён,
Любіць за іх, смяяцца, плакаць,
Здзяйсняць няздзейсненыя планы,
Не забываючы пра плён.

Каб не саромецца, дальбог,
За кожны ўчынак, кожны ўдумак,
Не ўгразнуць каб у ціне тлуму —
І лёгкіх не шукаць дарог.

А будзе шлях парой цяжкім
І мара — збытнай не заўсёды,
Не думай, браце, пра выгоды,—
Не забывай: мы — даўжнікі.

## ПАЛЯЎНІЧЫ

Па воўчых хаджу слядах —
Ён водзіць мяне кругамі...
Дагнаў. Той стаіўся ў кустах,
Зыркае злосна вачамі.

«Выходзь, неўталоннік лясны,
Не бойся, страляць не буду».
І выйшаў ён з-пад сасны:
«Чаго ты хочаш, прыблуда?»

## ДЗЕЦІ

І думае думу стары чалавек,
Сабраўшыся ў вечную рушыць дарогу:
«Жыве ў свеце сын. І дачушка жыве.
За іх памалюся ў апошні раз богу.
Даруюць няхай, як не так гадаваў,
Што ў госці не ездзіў з пакункамі часта,
Што, можа, не так калі частаваў,
З бутэлі не поўнай, а трошкі пачатай.
Няхай пажывуць, маладыя, з маё,
Няхай не зазнаюць няшчасця, юдолі,
Каб роднае дзіцятка сын меў сваё,
Дачушка — сваё. А захочуць — і болей.
Каб лёгка рабілася іхнім рукам,
Каб дзеці любілі іх і шкадавалі».

А дзеда — аднавяскоўцы хавалі,
Ні сын не прыехаў хаваць, ні дачка.

## ФОТАЗДЫМАК

Дзяўчынка маленькая — твар у вяснушках —
Ля рэчкі пасе качанятак пухнатых.
Яны — весялушкі. Яна — весялушка.
І бусел ля іх развясёлы, цыбаты.

Я «ФЭД» расчахліў, але шчоўкаць баюся:
Ці іх не спалохаю гэтаю цацкай?!.
Але мой намер разгадаў, пэўна, бусел —
Пазіруе, быццам акцёр заліхвацкі.

## БАЛАДА ПРА БРАЦКУЮ МАГІЛУ

І пайшлі...
Толькі вокны глядзелі услед
Ды бацькі з-за фіранак...

Стрэл дагнаў за адрынай.
І засціўся свет
Тром сынам-партызанам.

А пасля
Расстралялі й бацькоў —
На вачах
Перад вёскаю ўсёю,
Балявалі, люцелі фашысты — аж жах,
Выхваляліся зброяй.

Вечар
іх перастрэў
ля прынёманскіх стром
Гневам грому — расплатай.
Гэта помсцілі злыдням
за паўшых сяброў
Партызаны-салдаты...

. . . . . . . . . . . . . . . .

Там,
Дзе родных пяць душ
пахавана ў бары —
Бацька, маці і дзеці —
Не змаўкаюць, шумяць над магілай вятры
Пра жуду ліхалецця.



Я чакаю гасцей.
Я стаміўся чакаць.
Самавар адпыхцеў.
Дум сплытчэла рака.
Ноч сцяной за акном.
І нікога ў акне.
Толькі месяц, як гном,
Усміхаецца мне.



Ужо майскі вецер гуляе па скверы
І ліп раскатурхвае сонныя кроны.
А ім — у вясну надакучыла верыць,
Бо шчэ і не пахла вясною зялёнай.

Стаю ў задуменні,
Стаю ў засмучэнні
Ля голых, яшчэ не ачнутых галінак.
Чаму ж запазніліся сонца струмені
З цяплом, з жураўліным расчуленым клінам?

Нахлынула ў сэрца адчаю залева —
Раптоўна,
Як вецер парыўны, сцюдзёны...
Парою і сам ты — самотнае дрэва,
Якому бракуе зялёнае кроны.



Люблю быць сваяком
І дрэву, і птушыне.
І полю з васільком.
І пчолцы ў лугавіне.

Радні мяне, мой лёс,
З усім, чым свет багаты:
З крынічкай, поўнай слёз,
З асверам, што ля хаты.

Радні з рабінай той,
Што гронкай кожнай свеціць,
Са сцежкаю крутой,
З малінавым дасвеццем.

З тым, што ў патоку дзён
Навекі блізкім будзе,
Чаму ў жыцці жадзён,
Што сын мой возьме ў людзі.

А сын?.. Напэўна, той
Пачне ўсё спачатку:
З усёй сваёй раднёй —
Ён парадніць нашчадка!

* * *

Як гэта цудоўна: устаць раніцой,
Убачыць — на ўсходзе зара пунсавее,—
Прыбегчы да студні, абліцца вадой,
Пагрэцца, захутаўшыся ў завею,
А потым — ледзь цела нальецца зарой —
Прынесці у хату... вясновы настрой!



Зашчымела зноў на душы,
За жывое зноў узяло:
Раптам выбег з лясной глушы
На прагалак паранены лось...

Дзесьці ззаду — той страшны стрэл.
Дзесьці ззаду — і брэх, і крык.
Не ласіху сахаты стрэў,
А злаcліўца ў родным бары.

Кроў на сцежцы... Кроў на расе...
Кроў на сэрцы і на вачах...
Наплывае зноў пакрысе
Напалову забыты страх.

А знямога — звальвае з ног.
Ці то смерць прыходзіць, ці сон?
...Ля лаўжа, на лясны быльнёг
Рухнуў ён.

## ЗОРКАПАД

Спрабуе ноч мне сном прымружыць вейкі.
Луг — сена падаслаў пад галаву.
А ветах — сыпле з неба зор капейкі
У сінь-траву.

Не зразумець: яны блішчаць — ці росы?
І неба нада мной — ці пада мной?
І што я тут раблю, малы і босы?
...Спіць вёска за спіной.

Мне вольна тут. І думна. І цікава.
Увесь Сусвет змяшчаецца ў вачах.
А ці ў душы, ці ў гэтых мройных травах
Зор медзякі блішчаць?



Надыдзе такая пара,
Калі спалавее жыта,
І яблык нап'ецца сонца,
І пчолы набытак узважаць,
А неба — прапахне зеллем.

Адчую і я тады,
Што зроблена — гэтак мала...

Хай судзіць мяне сумленне!



На раздарожжы дум,
На раздарожжы спраў
Шукаю родных душ,
Каб хто паспагадаў.

Каб хтосьці дапамог
У трудны час быцця
Ці словам, ці, дальбог,
Хоць кропляй пачуцця.

Знявер'е пакрысе
Скрабе ў душы, скрабе:
А што, калі усе
Забылі пра цябе?



Зямля бацькоў!
О дай яшчэ мне раз
Прыпасці да цябе,
абняць аберуч,
Каб аніколі ў сэрцы не пагас —
Агонь любові,
радасці
і веры.

Каб кожным нервам быў прывязан я
Да тых мясцін,
дзе ты мяне ўзрасціла:
Да бальшака,
рачулкі,
ручая,
Да юнае бярозкі легкакрылай.

Каб зноў і зноў
наведваўся здалёк
У звонкі бор, у гай нессірацелы,
Дзе пырхае у травах
матылёк —
Дзяцінства матылёк празрыста-белы.

## ЗМЕЙ

У неба ўзлятае паветраны змей —
І доўга лунае над ціхаю вёскай,
Дзе толькі чутны галасы-адгалоскі
Старэнькіх бабуль ды свавольцаў-дзяцей.

Бабулі бурчаць на малых незнарок.
А дзеці ў сапраўдныя верацъ палёты:
Ім хутка — увысь паднімаць самалёты,
Ім хутка — касмічны асвойваць віток...

І хто з нас асудзіць іх праведны крык?!
Адны — пражылі век. Другіх — век пачаўся.
Яны прадаўжаюць аб нечым спрачацца.
А змей? — Ён лунае, лунае ўгары...

## АСЕННІ НАКЦЮРН

Вецер павее — і ліст ападзе на зямлю,
Крона ўстрывожыцца — новы апусціцца долу.
Мілы асенні накцюрн... Развітальны салют...
Падае лісце на хаты, на пуні, стадолы.

Музыка восені, згадку пра лета пакінь.
Дай не пазбыцца мелодый яго і акрасы.
Лісце ж кружляе і падае звонка —
«дзынь», «дзынь»...
І патанаеш у гэтых акордах адразу.

## ПЫТАННІ СТАРОМУ ДУБУ

Самотны, як чарнец,
Паклоны б'еш каму?
Адчуў нутром зіму
Ці — блізкі свой канец?

## ПАБЛАЖКА

Даём паблажку
Не дрэвам і травам —
Даём паблажку
Людзям і справам.
Каму — адразу.
Каму — пасля.
Каму — безупынку.
Каму — спакваля.

І вось ужо пыху паказвае той,
Хто славіўся шчырасцю і дабратой.
І вось ужо робіцца злосным — дабрак,
Зласлівец жа — злосць заціскае ў кулак.
Не можа знайсці апраўдання — нявінны,
А грэшнік — плячмі паціскае наіўна.

Чаму — дазваляем?
Чаму — не крычым?
Чаму не шукаем
Да праўды ключы?

Давайце засвоім
Як двойчы два:
Паблажка —
Гэта не трын-трава.

Паблажка не лечыць —
Паблажка калечыць
Стан чалавечы,
Род чалавечы.

Як вірус хваробны,
Паўзе яна,
Бярэ чалавецтва

Ў апалу няўзнак...
Атручвае сэрцы,
Забруджвае душы,
Праўдзівае,
                    добрае,
                              мудрае рушыць.
Ганебна
На гэта не ведаць лек,
Калі чалавеку — брат чалавек.

Паблажка!..
Ты творыш няскладнага многа:
Ты робіш з асілка —
Трутня зямнога,
На плечы ж
Сапраўднага трутня — аднойчы
Гатова ўзваліць
Непасільную ношу...

Ёсць дзе разгарнуцца
(Наша віна!)
Тым, хто з душою прагнай,
Без дна...
Тым, хто з душою нахабнай,
Заганнай —
Усім гарлахватам
І інтрыганам.

...Глядзім сузіральна
На з'яву звычайную,
Хоць знаем:
Паблажка — не дапушчальна.
Хоць знаем: яе — адфільтруюць гады́.

Хутчэй бы!
Як добра б было тады!

## БЕРАГ МАЛЕНСТВА

На сцежках маленства,
на сцежках дзяцінства
Даўно параслі меданосныя травы.
А памяць
ступае расяным дзядзінцам,
Праз рэчку
наладжвае ўброд
пераправу.
На беразе тым,
недасяжна далёкім,
Яшчэ
не астыла дарэшты цяпельца:
Там хлопчык,
зганяючы статак,
галёкае,
А потым, сагнаўшы,—
сядае пагрэцца...
І думае ён,
басаногі філосаф,
Пра космас маўклівы,
пра тайны ў Сусвеце...
А ўвечар
пачуе ў людскім шматгалоссі:
«Гагарын у космас злятаў на ракеце!..»



Я думаю, значыць я існую.
*Рэнэ Дэкарт*

Няпроста —існаваць на гэтым свеце.
Няпроста — думаць. І няпроста — жыць.
На кожнага — па бомбе ці ракеце,
Злавесна
зброі высяцца кражы.

Нібы замала ран, ахвяр замала
Ты зведаў, свет пакутны, ў дні вайны!..
Зямлі яшчэ балець не перастала —
Гудуць, гудуць хатынскія званы.

А недзе зноў заходзяцца гарматы,
І ганьбіць злыдзень нечы край, народ.
А недзе зноў фашыст прыдуркаваты
Жыццё чыёсь вядзе на эшафот.

Маліцца буду на святых мадоннаў,
Крычаць пра беды, біць ва ўсе званы,
Пакуль грымяць вайною палігоны
І ў неспакоі — цэлы свет зямны.



Патухае памалу касцёр.
Бульба ціўкае спуджанай птушкай.
— Гэта праўда, што хахаль памёр
Удавы-весялушкі?..

Я маўчу. Мне балюча сказаць,
Што той «хахаль» — гаротны хлапчына:
Жыў без маці... Купаўся ў слязах...
Пакахаў удаву — не дзяўчыну...

— Крычма, кажуць, крычала ўдава?..
— Я пайду, штось баліць галава...

## ШПАКОЎНЯ Ў ЛЕСЕ

З якога ты часу, шпакоўня,
Заручана з песняй птушынай,
Хістаешся ў кроне шыкоўна
Ля самых амаль аблачынаў?

З дажджамі, з вятрамі ў хаўрусе,—
Сваё не заплюшчваеш вока.
Чые дабрадзейныя рукі
Узнеслі цябе так высока?

Сярод векавечнага бору
Прыемна і зроку, і слыху:
Шпачыным заслухаўся хорам
І я — і старая ласіха...



З саміх сябе мы вырастаем пакрысе,
Становімся дарослымі аднойчы.
І кожны ў свет свой неспакой нясе,
Нясе свой крык, нясе свой плач сірочы.

Паплач са мною, незнаёмы чалавек,
Пакуль шчэ не залежны ты ад іншых,
Пакуль раздольна ветру ў галаве,
Пакуль нутро ахвяравана цішы.

Бо заўтра станеш ты спяваць, бядак,
Бо заўтра будзеш плакаць — толькі дома...
І не твая віна — твая бяда,
Што ўзрост табе даруе ролю гнома.

На лёс свой не паскардзішся, дальбог,
Бо зразумець цябе — наўрад ці змогуць...
Ты сёння — сам сабе. Ты сёння — бог.
Пабудзь жа хоць аднойчы ўволю богам!

## ПАЛКОЎНІКІ

Ні ад бомбаў,
ні ад рыкання гармат,
Зямля, ты яшчэ не дабрэла ні разу.
Войнаў сусветных было зашмат,
Сусветны мір — злыдням быў за абразу.

Нібыта дугі — траекторыі ракет
На карце
чэрцяць
гангстэры войнаў:
Ад базы кожнай — ракетаносцаў след,
«Тамагаўкаў» зграі — ад лодак падводных...

Няўжо не досыць для іх ахвяр,
Чад Хірасімы забыўся так хутка?!
Ядзерны
мроіцца зноў ім
пажар,
Пра зорныя войны
пускаецца чутка.

Закасаўшы рукавы,
ля пультаў сядзяць
Палкоўнікі чорныя
ў чорных мундзірах.
Гудуць касмадромы,
танкі грымяць,
Снарадамі
абмацваючы
арыенціры.

Зноў свастыкі ажывае павук.
Паход крыжаносцаў
зноўку ў пашане.

Зноў
        на палітыку доўгіх рук
Спадзяванне.

Пра войны лакальныя — досыць маны,
Пра пекла падумайце, прагнучы раю!..
Вам,
        улюцелыя служкі вайны,
На ўрокі вайны — забывацца не раю.



Народ без песень — не народ.
А ты — народ,
люд беларускі:
Не быў на песні недарод
Тут ні пад Мінскам, ні пад Глускам.

Спявалі гучна з году ў год
Ва Ўшачах,
Докшыцах,
Нясвіжы...
А столькі ж выпала нягод!..—
Ты, дзякуючы песні, й выжыў,
Народ мой, песенны народ.

І сёння, на шляху да зор,
Не забываеш песні звонкай:
Касмічны зведалі прастор
Набыткі Коласа, Зуёнка [1]...

---

[1] Кнігі гэтых паэтаў бралі з сабой у касмічнае падарожжа П. Клімук і У. Кавалёнак.

## КАСМАНАЎТУ П. КЛІМУКУ

Беларусь — бераг белых буслоў.
*Р. Барадулін*

Вачам азёр — свяціць не адсвяціць.
Бурштынным нівам — піць не выпіць высі.
Ці не таму і я палёт спасціг,
Што тут з буслiным небам парадніўся?

І ўжо над светам ярасна нясе
Касмічны вецер
вандраванняў новых.
Па верасах, па грэблях, па расе
Я родны край пазнаў зеленабровы.

Душа працята радасцю наскрозь.
Да д'ябла сум! Да д'ябла адзіноту! —
Я хлапчуком віхрастым між бяроз
Імчуся ўслед імкліваму палёту...

* * *

Думаю,
Абклаўшыся кнігамі спрэс,
Як адказаць на пытанні веку:
Ці чалавек закілзаў прагрэс,
Ці — прагрэс закілзаў чалавека?



Жыццё запіша ў пратакол:
«Любіў зямлю і краскі ў полі ўсе...»

А дзесь аўтограф ледакол
Пакіне на Паўночным полюсе.

А дзесь прасторы загудуць,
Бы ў гром, ад гулу рэактыўнага.
І будуць граць жыты ў дуду.
І падаць яблыкі ля тыну.

І будуць — о, жыццяпадзел! —
Раджаць дзяцей, пець, плакаць людзі...
Адметным будзе кожны дзень!
І дзіўна, што мяне не будзе...

## СЛАВЯНСКІЯ ПЕСНІ

Песня — радасць.
Песня — доля.
Песня — любая дзяўчына.
Дык спявай на ўсіх застоллях
Песні звонкія, Айчына!

Хай лунаюць без папрокаў
Зыкі вешчыя, крутыя,
Тыя, што прыйшлі ад продкаў,
Ці — па ўзросту маладыя.

Калі песня — дык каб песня:
Зачынай — і не губляйся!..
А расчуліць ці запесціць,—
Значыць, песня ўдалася.

## БАЛАДА ПРА ДОНАРА

Ён паміраў
На той крутой мяжы,
Якая называецца граніцай.
Ён чуў адно:
Як цела знабажыць,
Зняменню не жадаючы скарыцца.

А войскі йшлі
На захад, на Берлін.
І стаць у строй
Хацелася да болю.
Ён на сваім
На Куліковым полі
Крывёю
грудзі збарвавіў зямлі.

«Ратунак хлопцу —
Літры два крыві...» —
Сяброў гвардзейца
Абнадзеіў доктар.
І кожны з іх
У міг рашучы — донар.
І кожны шэпча ўслых:
«Браток, жыві!..»

Знявер'я не было...
І выжыў ён.
І Перамогі зараніцу ўбачыў.
Ды горла
Ком апёк
жуды гарачай —
Сябры не дажылі
Да мірных дзён.

І вырашыў салдат:
Сярод жывых —
Быць донарам за паўшых,
Незваротных.
Мінаюць вёсны,—
Кроў бруіцца іх —
У сэрцах — іншых,
Хоць чужых — ды родных...

Травою стаўшы,
Ён і сам жыве,—
Бруістыя
Не паміраюць рэкі:
З гарачымі
атожылкамі вен
Яшчэ ў наступны папрастуюць век —
Уратаваныя
для шчасця
чалавекі.

## ВЕРШ НА АДКРЫТУЮ ТЭМУ

Здаецца, стаў душою маладзей —
Такія за плячыма перамены!
І стала болей сярод нас — людзей.
Але ж і нелюдзей — ці стала меней?

Гад і даносчык, варвар і блазнюк
Трымацца рады на сугрэве разам:
За праўду — нехта выдае хлусню,
А нехта — праўду аблівае граззю...

Вераадступнік, канібал, пляткар
Лісліва ў твар з табой вітацца рады.
А аступіся — плюнуць прама ў твар,—
Прыслужнікі маны, кашчунства, здрады.

За дабрату — табе адплоцяць злом,
Затопчуць веру у людзей святую.
Сяджу між хіжых монстраў за сталом —
І мыслю: час іх ці перабудуе?

## ГАРАДЗЕЯ

Хоць на дварэ халадзее,
На сэрцы — цяпла прыліў.
Станцыя Гарадзея,
Як птаха,— мяне акрылі!

Адсюль да Нясвіжа — лётам
Праз сцюжу начы паімчу.
— Здароў, незнаёмец! Хто ты?
— Сазончык... З Рудаўкі...
— Чуў.

Ну, што ж,— ратуй нас, надзея,
Лёс,— барані ад ваўка...

Станцыя Гарадзея
Праводзіць гудком цягніка.

## ВЕЧНАСЦЬ

Мы — цацкі жывыя
У вечным бязмежжы Сусвету.
Прад намі — стыхія.
За намі — вякоў нашых Лета.
Так ёсць, і так будзе.
На хісткіх Сусвету скрыжалях —
Мы гномікі, людзі,
Хоць многае ўжо разгадалі.

## ПАЗІЦЫЯ

— Скажы мне, хто твой сябар?
Я сказаў.
— А вораг хто?
— Ды ворагаў багата.
І мой знаёмы адступіў назад:
— Дык ты не дэмакрат, а узурпатар?..
І мусіў я зрабіць наперад крок:
— Нягеглы ў разважаннях ты, браток!

## НАЧЛЕГ З НЕЗНАЁМЦАМ

— У стозе — не ў пасцелі спаць,—
Як бог, шыкуй да ранку.
І хай сабе грамы грымяць
І бліскаюць маланкі!

— Ды я, прызнацца, не засну.
Я помню, чалавеча,
Як стог маланку праглынуў —
І ўвесь згарэў, як свечка.



Ад чорнай вопраткі начы
Застаўся колер сіні,
Хіба што ў полі крумкачы
Яе неданасілі.

Павесялелі снегіры —
Убор іх зноўку ў модзе:
Ірдзенне
маладой зары
Займаецца на ўсходзе.

## ПАЭТАМ

Мы не бязвусыя юнцы:
Хоць нас і б'е няўмольна крытыка —
З нас кожны крочыць па жыцці
Празорцам,
творцам,
аналітыкам.

Хто — сее жменяй, хто — сяўнёй
Спрадвечнае і чалавечнае...
І нешта ўзыдзе ярыной
На неабдымнай ніве вечнасці.

Надзей з гадамі — не радзей.
Закон ёсць вешчы:
«Хоць паміраеш — жыта сей!»
...Мы — сеем вершы.



Дамы́ — як людзі.
У кожнага — свой зямны лёс.
Адны, і састарыўшыся,
Ні на пядзю не падраслі,
Другія — яшчэ маладыя,
А ўжо паспелі падняцца аж да самых зор...
Дамы́ — як людзі.

## АКСЕЛЕРАТЫ

Акселераты. Расцём — як дубы.
І ў адчуванні страчваем меру.
Ці не таму разбіваем ілбы
Нават ва ўласных дамах і кватэрах.

Любім шыкоўна, са смакам пажыць,
Павыдурняцца на роўнай дарозе...
А выглядаем парой, як пажы́,
Смех выклікаючы ў простым народзе.

* * *

А вечар — дзівак! — размаўляе са мной
То юнай бярозкай, то мудрай сасной,
То ўсмешкай рамонка, то спевам салоўкі...

Ну, вечар,— прыдумаў ты ўсё гэта лоўка!



Падорыць дзень мне столькі многа,
Падорыць день мне столькі мала:
Замнога пачуцця зямнога,
Замала спраў, каб дух займала.

І ступіць на парог мой вечар,
Зальецца вецер звонкім смехам...
І будзе ўспомніць мне аб нечым,
Апроч
сустрэчы з першым снегам...

## ГРЫБНАЯ ПАРА

Золак не шкадуе
Прыпару, расы.
Сонныя лясы
Сок зямлі свідруе.

Спорны час грыбоў!
Мох тапырыць спіну.
Збочвай са сцяжыны —
Рэж баравічкоў.

Расхінай груздоўнік
Так, каб ён абнік.
Вось і асавік —
Бабкі паслядоўнік...

Свеціць мухамор
Снегіром з-пад лапак...
Шчодры ўскрайку лапік,
Патаемны бор!

## МУЗА АШОТА ГРАШЫ

Падножжа Звартноца
І горная Занга
З вадою халоднай, як снег Айастана,
Аракс, і Севан, і імклівая Ганга —
Вам Муза паэта служыла аддана.

Яна на Масіс паднімалася крута,
Насіла
Да лоз арарацкіх
звон ліры.
І ведаць не ведала нават пра смутак —
Была весялей за дзяўчатаў Наіры.

Таму і не дзіўна,
Не дзіўна ні трохі,
Што ў рытме гармоній
і сонечнай радасці —
Вясне карабахскай давала урокі,
Як ладзіць у просіні
сем песень радугі.



Хлопцы, давайце не будзем сварыцца
Ні за кватэры, ні за пасады.
Нам яшчэ толькі-толькі за трыццаць,
А ўжо ў кпінах пагразлі, у звадах.

Радасцю, сумам — усім час надзеліць,
Перасварыўшы,— памірыць нас зноўку...
А не хапае жылплошчы вам дзесьці —
Я запрашаю
ў аднапакаёўку.



Апусцяцца пальцы на клавішы лёгка —
І песня пральецца ў душу незнарок.
А сэрца то сумам заные далёкім,
То лёгка заб'ецца, нібы матылёк.

О юны музыка, о хлопчык чуллівы,
Шчыруй жа, вяртай мае думкі туды,
Дзе столькі было пачуцця і наіву,
Дзе столькі шчымлівага тояць гады.

Гармонік то плача, то зноўку смяецца —
Клякоча ў ім радасць, і сум, і адчай.
Ляціць матыльком на яго маё сэрца.
А слёзы? А слёзы ад шчасця ў вачах.



На кані, пад канём, ля каня
Прашчур верным радзіме быў воем,
Бо сціскала
яго даланя
Меч булатны
насуперак войнам.
Хоць вышэлі паўсюль курганы
Напамінкам
пра розных там ханаў,
Ды злавеснае джала вайны
Не было ў курганах пахавана.
Крыважэрна
люцела яно,
Спапяляла сялібы, аруды...
І гарчэла жыццё, як віно,
Што па вуснах цякло у прыблудаў.
Катаванні, пажары, жуда...
Пахаванні — і зноўку ахвяры...
Як прынада,
людская бяда
Тут згушчала варожыя хмары.
Край славянскі! Зямля крывічоў!
Для чужынцаў — не стала ты раем:
Хто на нас
замахнуўся мячом,
Той мячом быў і сам пакараны.
Будуць помнымі
леты і дні,
Што ўзрасцілі
славянскае брацтва.
Божа праведны — час — барані
Нашых ворагаў
зноў ад вар'яцтва!..

## НАТУРШЧЫЦА

Адпазіравала ўдала:
Як хацелі, як прасілі...
Толькі сілы стала мала,—
Гэтак мала ў целе сілы!

І куды сышоў ад пекнай
Малады запал дзявочы?
Ён цяпер у той, напэўна,—
Што з малюнка косіць вочы.

Вунь яна. Глядзіць з партрэта —
Велічна. Раскута. Статна.

А вядома будзе свету,
Што натуршчыца — мастачка?



Адсварацца грамы, адплача лівень,
Завершыць сонца свой працоўны дзень.
І поўня белым яблыкам наліву
Зусім нячутна ў лужыну ўпадзе.

А я ўсё буду сумаваць пад дрэвам,
Курыць «Апал» няведама чаму.
І моўчкі размаўляць да ранку з небам.
І думаць не пра лета — пра зіму.



Паміраюць памалу дзяды,
Перажыўшыя смерць неаднойчы.
Паміраюць, ідуць на клады,
Назаўсёды заплюшчыўшы вочы.

Болей — гора было ў іх вачах,
Меней — радасці наталення...
У апошні праводзячы шлях,
Станьце, ўнукі ўсе, на калені!

Адбалелі ран пісягі
Грамадзянскай, Вялікай Айчыннай...
Іх аплачуць — лугі-мурагі.
Іх аплачуць з вышынь аблачыны.

На суровай мяжы ў небыццё —
Кніга памяці будзе пачата...
Іх працягам — стане жыццё,
Перададзенае нашчадкам.

## АСЕННІ ТРАКАЙ

Дарога цячэ, як рака,
Ды — стоп! — павярнула налева,—
І нас
Сустракае Тракай
Сонечнаю залевай.

Танцуюць на дрэвах лісты
Ад подыху ветру раз-пораз.
Барвовы і залаты
Разна́сцежыў вуліцы
горад.

Азёрны куточак Літвы,
Літоўскай Швейцарыяй званы,
Не тоіць ад нас
дабраты —
Усю аддае дазвання.

З сучаснасці — у даўніну
(Праз мосцік над возерам самым),
Бы ў казку,— і я праслізну
Між люду
Ў Тракайскі замак...

...Чароўны асенні Тракай.
Не вяжацца слова «бывай»!

## МЕТАМАРФОЗА

Я ім захапляўся — нядрэнным паэтам,
Рад кожнай быў кніжцы — як свежаму снегу...
«Паскудства жыве ў чалавеку у гэтым»,—
Сказаў пра яго мне старэйшы калега.

«Паскудства. А болей, брат, і не пытайся».
І сумна мне стала ад гэтай высновы,
Нібы па душы нехта мне патаптаўся
І кожнаю кніжкай, і вершам, і словам...

## У НАЙМЕ Ў СОНЦА

Быць заўсёды
Тых абаронцам,
Церпіць хто ад падонкаў,
Чынушаў...
Нат тады,
Як не свеціць сонца,—
Асвятляць
Чалавечыя душы.

## НА НАЧЛЕЗЕ

Дым павіс, як белы шалік,
Над палямі, над лугамі.
І расы густой каралі.
І запахла даль кастрамі.

Коні зданямі між ночы,
Траў духмяных шапаценне...
Наплывае сон на вочы
Дзіўнай казкай у імгненне.

Прачынаешся, як егер,—
Перад самым сонца ўсходам...
А наўкола — пах аеру,
Канюшыны хмельны водар.

## РЭХА

Наладжу свой настрой на спеўны лад
І з песняй увайду ў лясок прымгнёны.
Мне рэха адгукнецца наўздагад
І перадражніць голасам вароны.

Завые воўкам. Рыссю завішчыць.
Савой заплача ў стоенай гушчэчы.
А потым, не спалохаўшы нічым,
Са мной пачне спяваць па-чалавечы.

## ВАЙНА

Я думаў,
Што досыць пісаць пра вайну.
Я ж не ваяваў — і не зведаў, страшэннай.
Ды ўбачыў салдата без рук і без ног:
Яго
На рыпучай калясцы па плошчы
У Дзень Перамогі везла жанчына.
І сэрца раптоўна зайшлося ад болю...
Ад болю і крыўды...
І я не стрымаўся.

## ХВАРОБА

Завітала ты госцем рэдкім,
Сухашчэпка, карга старая...
Адганіце
на суткі стрэлкі,
Я — гадзінніку не давяраю.

Дзень назад — я быў дужы ў целе.
Дзень назад — я мог горы зрынуць.
І ад працы я быў спацелы,
А не ад
аспірыну.

Мне законы хваробы — да д'ябла:
Дайце лесам дыхнуць і полем,
Дзе надвечар
хадзіў азяблы,
Наглытаўшыся ветру ўволю...

А яна бліжэй падступае,
Ілюзорная невідзімка,
Сухашчэпка,
карга старая —
Прахадзімка...

Ну, чакай: набяруся злосці,
Развіну,
як раней, свае грудзі —
І тады растрасу твае косці
Так,
Што сцежку ка мне забудзеш!



Здаецца, што неба сышло на зямлю —
Хмурыны над пожнямі вецер разносіць...
А я гэты час невыказна люблю,
Калі свае барвы запальвае восень.

Яшчэ да снягоў — столькі дзён залатых,
І бабіна лета не спрала кудзелю,
Гарадь не згараюць над рэчкай кусты,
І ў сэрцы — вялікія спеюць надзеі...

* * *

Былі і такія, каго праклінала
Зямля Скарыны, зямля Купалы.
Ды больш яна знала добрых людзей,
Якіх
Да сваіх туліла грудзей.

## ДУЭЛЬ

На гэтай дуэлі — не страшна,
Ідуць на яе без прынукі...
Юнцы
і зусім ветэраны —
Цісцуць па-брацку рукі.

Атака ці абарона —
Выгляд заўсёды ўрачысты,—
За шахматную карону
Змагаюцца шахматысты.

Тут поспех — папераменны.
А радасць каму спатоліць —
Вырашыць, несумненна,
Адно на дваіх застолле...

Вітаю застолле такое,
Змаганне такое — вітаю:
Перамагае не зброя —
Розуму Праўда святая!

Няправільны ход — і адплата:
Ты выведзены з раўнавагі...
Вось так бы заўжды дуэлянты
Скрыжоўвалі свае шпагі.



Абкрадваем самі сябе,
Прыкрыўшыся шыльдаю быту.
А час немінуча праб'е:
Давайце узважым набытак.

А час запытаецца, скуль
Такая няшчырасць, суровасць:
Адных — не прызнаў ты пакуль,
Другім — не памог добрым словам?..



Чаму так сёння плача конік?
Чаму такі самотны спеў?
Напэўна, песняю сягоння
Ён выказаць свой хоча гнеў.

Патрушчылі прагрэсу колы
Яго братоў між мурагоў.
І мяккі пах травы наўкола
Зусім не радуе яго.

## ЗВАНАР

### СІВАЯ БАЛАДА

Стары званар. Яму было за сто.
Глухі, ён слухаў гукі той званіцы,
Дзе плакалі званы каля капліцы,
Вайну апавяшчаючы, патоп...

Спакой панурыў у яго вачах,—
Вятры і беды выпілі ўсе слёзы.
Але ў душы
звяноў гучалі крозы —
Ён знаў: да самай смерці ім гучаць!

І што там смерць! З ёй бачыўся не раз...
Ён молада адчуў вяроўку ў пальцах!..
Ён варухнуў званоў сівую памяць!..

І ў той жа міг не стала званара.



Паволі сплываюць снягі.
Паволі шырэюць праталіны.
Успомніў жаўрук пра даўгі.
І рэчка згубіла прыталенасць.

Аздоблена неба вясны
І сонцам, і хмаркай пунсоваю.
І хутка ўжо дождж праліўны
Прамчыць над зялёнай дуброваю.

## СЛЁЗЫ

Люблю я слёзы,
Якія ад шчасця, ад радасці.
Люблю я слёзы,
Якія ваююць з няпраўдай.



Прыдбаў гадоў жыццёвых чараду,
А ўсё, як колісь, юнакую ў свеце.
За сябра мне — сустрэчны польны вецер:
Ён па-ранейшаму займае дух.

Прастору падуладная душа
Гукае ўдаль мяне, як Адысея.
І прарастае парасткам надзея
Пачаць нанова ўсё, пачаць спярша.

Я пачынаю... Доўжацца гады.
Мне ўжо за трыццаць. Праўда, малады?!

* * *

Так бывае ў спрэчцы,
Так бывае ў працы:
Хто святы, хто грэшны —
Цяжка разабрацца.

Два бакі ў манеты...

Час падкажа, людзі,
Хто — быў прайдзісветам,
Хто — быў праўдалюбам.

## ДОПЫТ

Яго сагнулі у дугу.
Ён страціў зрок. Ён страціў слых.
Ды ўзвіўся крык: «Яшчэ магу
Скруціць вас, вылюдкі, дваіх!»

І ён напружана засоп,
Пасля, сабраўшы рэшткі сіл,
Схапіў іх, стукнуў лоб аб лоб:
«Вось вам за ўсё!.. Вось вам за ўсіх!..»

Ён ведаў: ззаду трэці гад.
...Крывёй захаркаў аўтамат.



Пагасцюй, завіруха, ў мяне на двары.
Я люблю тваю вольнасць, дзе ўцехі багата.
Захінуліся ў коўдру тваю снегіры.
Захінулася ў коўдру бялюткую хата.

Мне таксама свой шал не суняць дапазна —
Буду разам з табой весяліцца уволю,
Бо,
    па календару,
                        заўтра прыйдзе вясна,—
Не цябе, а яе запрашу я ў застолле...



«Усё ў прыродзе гарманічна!» —
Сказаў філосаф.
Ды лівень хлынуў навальнічны
(Не падалося!) —
І ўсё знішчае на шляху
Вада крутая:
Карчуе дрэва, рве страху
І мост зрывае...
Плыве — жыллё, плыве — трысцё,
Плыве — калоссе...
Не падалося гэта ўсё,
Не падалося!

І заўважаем мы пасля:
Не гарманічна,
Не гарманічна ўсё ў прыродзе,
А цыклічна.

## ЗАКЛІНАННЕ ЗАЛАТОЙ РЫБКІ

Не, не з мэбляй дарагой,
Антыкварнай —
З рыбкай тою, залатой,
Што ў акварыуме,
Мусіць, суджана мне жыць...
Закліна́ю:
«Памажы мне, памажы,
Рыбка залатая:
1) Вечна свой любіць народ;
2) Жыць — работай;
3) Многа кніг мець і сяброў.

Вось і ўсё тут!»



Аб'яўлена праграма «Час».
У фокусе — падзеі веку.
Нацэлена глядзяць на нас
Усе трывогі чалавека.

Там — землятрус. Там — дзікі шквал.
Там — узарвалася ракета.
Дваццаты век, ты — перавал
У невядомае планеты.

Ці уратуем шар зямны,
Які ні ёсць,— ды наш, адзіны?
...Страляюць прэзідэнту ў спіну.
...Лютуе дзесь агонь вайны.

Усім, усім багаты век —
І радасцямі, і бядою...
Дык захавай усё святое,—
Не стань вар'ятам, чалавек!

## ТРАЛЁЎКА ЛЕСУ

З вышыняў — сонца жоўтай лавай.
А справы ўсюды: злева, справа.

Тут, як кавальскія мяхі,
Працуюць лёгкія.
Тут ачышчаюцца мазгі
Ад тлуму лёгка.

— На што хто здатны — паглядзім:
На сілу?.. Лоўкасць?..
— Эх, падвяла, брат Нікадзім,
Пяцірублёўка!..

Натужыў жылы дзед Цімох.
Пот выцер Зміцер.
— А ты, Мікіта, што не ўзмок?!
Чаму «мікіціш»?..

Ідзе бяседа талакой.
Ідзе работа.
І пахне свежаю смалой.
І пахне потам.

## ПРЫЕЗД

Зусім заспаны, выйшаў на перон.
Здзівіўся:
На дама́х — ад ліўня дзягі.
За тое,
Што не ўзяў я парасон,—
Дождж робіць на спіне маёй заўвагі.



Зацікалі ходзікі ў хаце,
Ля печы ўвіхаецца маці.
— Дзень добры, мама!
— Сыночак!..

Адкрыта акно ў сад вясновы,
І позні ўжо час вечаровы.
— Не холадна, мама?
— ...Дзе спацьмеш?

Ледзь вочы расплюшчыў, заспаны,—
Бульбай запахла распаранай...
— Няўжо гэта раніца?
— Снедай...



Шуміць за акном лістапад.
І дождж барабаніць па даху.
І зноўку, як сябру, я рад
Прамокламу шэраму птаху.

Ён фортку асвоіў даўно —
Спакойна ў кватэру ўлятае.
І мне весялей перад сном:
У хаце — істота жывая.

## ВЫПАДАК

Па лесе йшоў, а страх — ступаў за мной.
Было жахліва ад таго, што ўбачыў:
Гадзюка
вывадак гадзючы свой
Раз'ятранай знішчала пашчай.

Нібы не заўважаючы мяне,
Яна жыўцом
сваіх глытала дзетак.
Мурашкі
прабягалі па спіне,
Пакуль глядзеў я
на яе наедак.

Ачомаўшыся, я памчаўся прэч,
З чала
рукой змахнуўшы пот халодны.
А за спіной —
маланкі ўдарыў меч,—
Ён спапяліў
гадзюку падкалодную.

## ПІРАГІ

Бялюткай-бялюткай
Зіма намалола мукі
У жорнах завеі.
Задумала ўранку
                                        з сумётаў спячы пірагі,
Агонь запаліла —
На ўсходзе зарой ружавее.

Спякла.
                    І паклікала ў госці Ярылу з нябёс.
Прыйшоў — залатая ільсніцца карона!
А як пра гасціны
                                        даведаўся дзядзька Мароз —
Заплакаў:
— Каго ж запрасіла, сястра мая родная!..

А госць засядзеўся.
                                                І вечар між тым наступіў.
— Ах, сорам які!
                                Цэлы дзень прагасціў я, нябога...
Пабег ён, чырвоны,
                                                праз лес
                                                        нацянькі, напрасткі —
І знік за гарой.
Ці надоўга?



«Гай бярозавы,
                    мілы гай,—
Я даўно тваіх спеваў
                         не слухаў.
Паспявай мне, мой гай,
                          паспявай —
З сэрца выветры
                     даўнюю скруху.

Я
  ад песень аглух гарадскіх,—
Буду рады тваёй,
                    ледзь улоўнай...
Як не вечнасць,
                    то хоць бы міг
Дай пабыць
               у яе палоне».

Толькі гай
               не азваўся ані
Ні галінкай,
               ні лісцікам кволым...
І,
  як здань,
              я стаю ў цішыні —
Задуменны і невясёлы.

## СЫНОЎНЯЕ

Партызанская зямля мая,
Надзялі мяне, як сына,
І чмялінаю палянаю,
І крынічкаю ласінай.

З горада, бы з эміграцыі,
Я вяртаюся заўсёды —
Сэрцам
Водар піць акацыі,
У твае глядзецца воды...

Бальшаком, сцяжынкай вузкаю
Прагну
Паблукаць да стомы.
Тут ніколі мне не вусцішна,
Я ў любым закутку — дома.

Пыл дарожны, пах мурожны
Я спазнаць хачу нанова.
Вер: усім тут заварожаны,—
Кожнай кветкай, кожным словам...

Векавечная, былінная,
Цудадзейная, радзінная,
На тваіх лугах, палях
Я — твой сын, мая зямля.
Ці не прызнала?



*Светлай памяці Іосіфа Скурко*

Надыдзе момант — і не спыніш слёз,
Надыдзе момант — і ад слёз не дзецца...
Не вочы плачуць, плачуць нашы сэрцы...
Надыдзе момант — і не спыніш слёз.

І не таму, што дзень сышоў наўзбоч...
І не таму, што здаўся свет зацесным...
Так крыўдна сэрцам нашым і балесна,—
Што ў сябра ноч, няпрошаная ноч...

А ён застаўся ў недаснёных снах.
А ён застаўся ў недапетых песнях.
Яму — гусці у крыгаломе веснім,
Іскрыцца ў светлых сонечных дажджах.

А нараджацца прыйдзе час жытам,
І прыйдзе час лугам спраўляць радзіны —
Яму таксама нараджацца дзіўна,
Яму таксама з глебы прарастаць...

## ПУЛЬСАРЫ

### 1

Хвалі лёсу выносяць акулу на бераг,
Чалавека ж — кідаюць часамі ў прадонне.

### 2

У пярэдадзень пошуку
Рух падначалены думкам, а думкі пачуццям.
Каму ж падначалены пошук?

### 3

Быць наіўным —
Не значыць няправым,
А помслівым быць — небяспечна.

### 4

Апалон, Гіяцынт, Кіпарыс
Ці не ведалі здрады?!
На планеце людзей
Ад яе не ўхінешся, спрадвечнай.

### 5

Рух — не рух,
Калі вочы не трызняць прасторам
І верад не мроіцца целу.

### 6

Паміраючы,
Плакаць нікому па мне не дазволю.
Безнадзейным не стане мой клопат.



Вы па кім гэта, ветры асеннія,
Пачынаеце галасіць?
Мо — па Пушкіну? Мо — па Ясеніну? —
Па вялікіх паэтах Русі.

Задушэўнае нешта і сумнае
Навяваеце зноў вы і зноў:
Тут Някрасава песня прысутнічае,
Тут мне чуецца Блок і Рубцоў...

Закалыханы ветру пошумам
Верша цютчаўскага радкі,
І Ахматавай
строфы апошнія,
І Мартынава
чарнавікі...

Я ўдзячны вам, ветры вольныя,
Што паплакалі ў кронах асін
Па вялікіх паэтах — па волатах! —
Дань павагі аддаўшы Русі.

* * *

Баржу паэзіі
Праз вякі
Цягнуць паэты,
як бурлакі.
Толькі адны з іх —
Макрэюць ад поту,
Другія —
Пакурваюць люльку ў ахвоту...



Пазыч мне убор свой стракаты,
О луг квяцісты!
Яго прыхаваю для свята,
Надзену ўрачыста.

Каб кожны адчуў, убачыў:
Я хлопец — вясковы,
І мне не ганяцца
За ўдачы
Срабрыстай падковай.

Люблю жыць звычайна, як людзі.
Выгод жа — баюся.
А радасці ў доме прыбудзе —
З людзьмі падзялюся.

Я знаю: пазычыць заўсёды
Мне луг квяцісты —
І красак, і дзікага мёду,
Чыстага-чыстага...

## ГАРМОНІК

Я гармонік свой расцягну,
Зверху ўніз прабягу па клавішах
І дзяўчат за сяло гукну
Слыннай песняй «Москва златоглавая».

А пасля, як туман упадзе,
«Туман ярам...» зацягнем апоўначы.
На Тур'ю нас яна павядзе,
Сэрца смуткам і радасцю поўнячы.

А затым, пад маладзіком,
Будзем доўга аб нечым раіцца,
Пакупаемся талакой —
І... ізноў будзем пець. Да раніцы.



## РОБАТАМ XXI ВЕКУ

Лушчыць ядры атамаў
эпоха.
Штучна нараджае...
Штучна нішчыць...
Ад якога творцы,
да якога —
Прыйдзеце вы ў свет зямны, крынічны?

Вам не толькі жвір,
руду лапаціць,—
Гангстэрамі зробяць вас, рабамі...
Нехта кпіць пачне
З вачэй лупатых,
Пацяшацца тлумнымі ілбамі.

Калі б толькі!
Калі б толькі гэта! —
Вам яшчэ даручаць —
карту свету.

Лазер і нейтрон —
На службу вам.
Майце ж літасць,
волаты-джэнтльмены!
Вашым
звышпасычаным мазгам
Хай падорыць мудрасць — Айкумена.

Будзьце працавітымі, як людзі.
Будзьце неўталоннымі,
Але
Ў кожнага
на зморaным чале

Хай жа светлых,
Мірных дум прыбудзе.

Палюбіце
Праўду і дабро.
І Зямлю, пяшчотную, жывую.
Праз гадоў нязведаных
нутро —
Вам з надзеяй
Падаю руку я!



У спеўны час вясны
Ніяк не ўседзець дома:
Зноў цягне ў кут лясны,
Дзе ўраз знікае стома.

Раз'ясненую сінь
Буслы прашыць гатовы.
Нясі свой сум, нясі
Пад шатаў хісткіх сховы.

Ачысціць гул дарог
Душу — ад дум наносных.
І спраўдзяцца, дальбог,
На шчасце ўсе прагнозы.

## ПРА ШЧАСЦЕ

Я цвёрда сказаць магу:
Не трэба для шчасця многа —
Адчуць,
Як нага ў нагу
З табою
　　　　ступае эпоха.

Спазнаць
Смак нялёгкіх дарог.
Пачуць кожным нервам —
　　　　　　　　　　стому.
І ўпасці на мяккі мурог
Ля роднага дому.



Люблю ваш сум, асеннія лясы,
Дзе шчэ утульна і жаўне, і сойцы,
Дзе столькі сонца выпілі лісты,
Што сталі самі жоўтымі, як сонца.

Не па грыбы прыйшоў, хоць і грыбнік,
Я на лясное сцішанае гала,
А проста паблукаць, як лесавік,
Там, дзе зязюля ўжо адкукавала.

Бо колькі мне наканавана жыць
У мілым краі, продкамі абраным?..
Задумаўся... А ўжо зара дрыжыць
На кронах дрэў...

«Дабранач, лес! Дабранач!»

## КАНТРАСТЫ

Выйшаўшы з хаты,
як тут не здзівіцца:
Нібы галяком ты,
хоць і
ў целагрэйцы,
І ранак прамёрзлы
скалелай сініцай
Лезе ў кішэню,
каб абагрэцца!..

Сініцу — у хату.
А сам — за сякеру.
Лепш, чым работа,— ніпто не сагрэе:
Трашчаць ад марозу
і шулы, і дзверы,
А на твары тваім —
растае
завея...



Спытай, як бор крычыць,—
У ссечанага дрэва.
Ты, лесаруб, сячы,
Але сячы, дзе трэба.

Сячы, хоць з-за пляча,—
Ды з розумам, як продак...
Не верыцца вачам,
Што цэлы бор — на дровы.

Прысуд свой вынес век —
Неперспектыўнасць зноўку:
Дзе многа дрэў-калек,—
«Стрыжы» ўсё пад «нулёўку»...

Кладуцца ў бок шашы
Раўнюткія спачатку.
А потым — спарышы.
А потым — пакручакі.

...Ты, лесаруб, сячы,
Але сячы, дзе трэба:
Ты чуеш, як крычыць
Душа у кожным дрэве?

## ПРЫСТАСАВАНЦЫ

Як вераб'і ў альтанцы,
Схаваўшыся ад спёкі,
Жывуць прыстасаванцы
З палёгкай: рукі ў бокі.

Паходкай ходзяць чыннай:
Для іх жыццё — удача,
Бо ёсць аўтамашыны,
Ёсць гаражы і дачы.

Адзін намацаў жылу
Для лёгкае нажывы —
Ён з-пад крыса збывае
Тавар, што попыт мае.

Сваіх выгод аблогу
Так доіць, як карову.
Ён і цябе самога
Купіць-прадаць гатовы.

Другому хлеб нажывы
Даецца кроўю, потам —
Да залатое жылы
Хады шукае ўпотай...

А гэты хабар мае —
За дапамогу маме:
То парсючка, то «Ніву»,—
Усё ж такі нажыва.

Жыве, хоць не працуе —
Не жне, не сее жыта...

Што робіць ён? Фарцуе
Іконы старажытныя.

...Глядзяць на свет з пагардай —
Жыць — значыць нажывацца! —
Сапраўдныя паганцы —
Прыстасаванцы.

## ПОЛЕ

Нялёгкая ў поля доля,
Клопат у поля — спрадвечны:
Спачынку не мае ніколі,
Кормячы род чалавечы.

Не толькі плуг селяніна —
Спазнала і дым, і порах.
З народам
віхурнай часінай
І радасць дзяліла, і гора.

Было яно страшным, мінным —
Стала зноў добрым, мірным.

Роднае поле — калыска
Матчыных спраў і песень.
Далёка я быў ці блізка —
Заўжды яго ў думках песціў.

Вітаўся з ім па-чалавечы,
З яго не пакпіў ніколі...
Мы — госці у свеце вечным,
Асновай жыцця дзе — поле.

* * *

Найлепшая з усіх ідэй
Прыйшла ка мне ад Марка Пола...
І я мяняю свой эдэм
На гразкую сцяжыну ў полі.

І я мяняю дрындулет
На боты бацькавы й накідку.
Перада мною — цэлы свет
Наноў адкрыўся ўвачавідкі.



Шчаслівага палёту, жураўы,
У край далёкі, цёплы — ды чужынны,
Дзе шмат азёр, дзе пахка ад травы,—
Ды сум па верасах, па журавінах.

Расстайна цені вашы прамільгнуць
Над роднаю зямлёю, над Палессем...
Зноў мне да ранку будзе не заснуць,
Наслухаўшыся вашай сумнай песні.

Ляціце. І вяртайцеся назад,
Дзе вас чакаюць паплавы-балоты,
Дзе ля вады — прывеціць вас лаза,
А на вадзе — ўсміхнецца шчыра лотаць.

Абраніць клін ваш пёры на зямлю,
У вышыню падняўшыся надоўга.
Вяртайцеся, радзімыя,— малю.
Не ўсе балоты перасохлі дома.



Каго ты, каго ты яшчэ не сагрэў
Сваёй дабратой, цеплынёй і спагадай?
Спытай у людзей, запытайся у дрэў —
І будзеш не рады...

Палову пражыў, а зрабіць ці паспеў
Палову таго, што адпушчана лёсам?
І нават твой спеў — гэта, мабыць, не спеў,
А так, падалося...

## СПОВЕДЗЬ УЦЕКАЧА

Вёска, вёсачка драўляная,
Сэрцу мілая да скону,
Ты даруй, я ўсё ж заглядваю
Ў засень ліп тваіх і клёнаў.

Ты павер, я ўсё ж не выракся
Ні двароў тваіх, ні люду.
Да цябе не-не дый вырвуся
З тлуму, грукату і гуду...

Мне шкада цябе, наіўную
Перад векам і прагрэсам.
Мне шкада цябе, нявінную
Перад звыштэхнічным стрэсам.

Мо таму я і не грэбую
Пылам, колкасцю ажыны,
Дзе пявун чырвоным грэбенем
Прычасаў траву ля тыну.

Мо таму і сцежкі росныя
Даражэй за ўтульнасць вуліц.
Мо таму і песні родныя
Берагу, як пчолы вулей.

Думамі жыву вясковымі:
НТР — не выпадковасць.
Заўтра, за мурамі новымі
Ці не страціш ты вясковасць?



Люблю вас, юныя паэты,—
Правінцыяльныя Гамеры...
Вы — неадкрытыя планеты
Трывог,
надзей,
памкненняў,
веры.

Ваш зорны час яшчэ ў дарозе.
А пройдзеце свой шлях цярністы,—
Хто — стане песняй у народзе,
Хто — ўзыдзе зоркай прамяністай.

Адно б — хапіла ў вас гарэння,
Хапіла ў сэрцах азарэння...



За вёску адкаціліся грамы...
Перасядзеўшы ў хаце навальніцу,
З табой мы выйшлі ціщыні напіцца —
Імкнёмся да ракі, дзе спяць самы.

Залапатала качка ў чаратах,
Спалоханая нашым набліжэннем,
На рэчку леглі два тугія цені —
І зноўку наступіла немата.

З вады запахла раскай і луской,
Ля берага трава зашапацела,—
Напэўна, сом бадзёрыць сваё цела —
Раз-пораз масажуе асакой.

А плоткі пазашыліся ў карчы —
Варушаць поўню іх малыя жабры...
Яшчэ хвіліна — і рачныя жабы
Зноў распачнуць сімфонію начы.



Прысяга. Мы паўзводна — і вясна.
Гучаць сурова словы, як набат.
Трымае сцяг брыгадны — старшына.
Замёр па стойцы «смірна» сам камбат.

З нас кожны — сёння воін малады.
І поўніцца ад думак галава.
А сцяг — я пацалую за ўсіх тых,
Хто не паспеў яго пацалаваць.

## ПАГРАНІЧЧА

Цішыня. Толькі дрэвы пацепваюцца,
Толькі вечар дыхае холадам,
На фуражках ледзь зоркі зацемняцца —
Загараюцца зоркі над горадам.

А запахне роснай атаваю —
Водзіць заяц лагодна пысаю,
І туман над пагранзаставаю
Галавою ківае лысаю.

Анідзе, толькі тут так стоена
Б'юцца сэрцы ў трывожным зацемку.
...Крочыць змена з дзяжурства,
Стомлена
Абмінаючы ў пушчы пасеку.

## БЕЛАРУСАЧКАМ

Салдат заняты справамі дзяржаўнымі.
Салдат і ў мірны час — як на вайне.
Пішыце пісьмы, прыгажуні, мне:
З-пад Стоўбцаў,
З-пад Нясвіжа,
З-пад Пружанаў.

Мне нельга без навінаў, юнаку.
Я заўтра й сам цывільным стану, ведайце!
Калі маім пачуццям вы не верыце —
Пішыце пісьмы... цэламу палку.



Ранак — запомніўся водарам мяты.
Пахкасцю зёлак — адметны быў поўдзень.
Вечар — меў шчодрасць на пах сырадою.
Ноч жа — травой лугавою прапахла.
Вось чаму ў сне накасіўся я ўволю.

## ПАХОДНЫЯ БОТЫ

І я ў паход хаджу з сябрамі,—
Не затычка ж я ў бочцы!..
Як Нізамі дружыў з «нізамі»,
Дружу я з вамі, боты.

Ад шалухі будзённыхісцін
Далей, далей у неруш.
Гумовікі варушаць лісце,
Як рыбу — нерат.

Зачэрпнем прахалоды з рэчкі —
І з плеч турботы.
Пакляўся:
Напішу нарэшце
Песню пра боты!



Абветраных прастораў прагне сэрца,
І думкі
ўсё лятуць за небасхіл.
Чым пасылаць іх сябру у канверце —
Лепш сам прыеду,
захінуты ў пыл.

Адпарыць сябар у сялянскай лазні.
Касцюм
не абміне рачной вады.
І будзе ўцехай мне
настрой уласны:
Я стану зноў —
адчайна маладым.

Маленькая планета цішы, вёска!
Мне быць
тваім да скону даўжнікам.
Тут нават рэактыўны ў небе роскат
Нагадвае
звычайны летні гром.

Лістком бярозы
затрапеча радасць
У нетрах развярэджанай душы.
А рушу ў шлях —
з матулiным паглядам:
«Глядзі, сынок, душой не саграшы!..»

## У АДКАЗ НА АДНУ ПРОСЬБУ

Душа мая — не месца для хлусні,
Не месца для авацый шалапутных.
Душа мая — яе ты закрані! —
Пра радасці раскажа, пра пакуты.

Ад шчасця не разбэшчана майго,
Бо шмат яшчэ
Не залячыла ранаў!..
У ёй хапае месца для ўсяго,
Апроч... высакамер'я і падману.

## ВУЧЭННІ

Дол скапыціўшы, залева
Падалася прэч...
Хлопцы селі на сугрэве,
Пара валіць з плеч.

Цішыня над палігонам.
І сказаў камбат:
«Не шкадуй, братва, патронаў!
Вось і ўвесь загад...»

Праз хвіліну — гул грымотны:
«Град» з-за спінаў б'е.
Мы ўзялі — з налёту! — ўмомант
Агнявы рубеж.

Не злічыць ад куль адмецін
На зямлі сырой...
Нас назад праводзіў месяц
Сцежкай патайной.

## ХЛОПЦЫ ЧАЦВЁРТАЕ РОТЫ

Цывільны настрой
І цывільныя звычкі...
Пагоны змяніў
На зямныя турботы.
А ўсё-ткі са мной
Галасы пераклічкі —
І рослыя хлопцы
Чацвёртае роты.
Бывала,
Смяяліся гуртам нямала.
Бывала,
Дзялілі бяссонне, дарогу.
Ступалі не раз
На звярынае гала —
І карк падміналі
Балотнаму смогу.
У слоту — не кіслі,
У сцюжу — не нылі.
Любілі хадзіць
У начныя атакі.
Пайкі палявыя
На маршах цанілі
Найлепш,
Як банкета любога
Прысмакі.
Яшчэ не забыты
Эмблемы і лычкі...
А стане сцішнó
У засіллі самоты —
Гукаю я вас,
Галасы пераклічкі —
І рослыя хлопцы
Чацвёртае роты.

## ГАСЦІНЫ Ў БОГА

«Па чым фунт ліха?» —
Хтосьці кпіць.
А я ў гасцях у бога,
І ён мікстуру раіць піць,
Ды я не п'ю, нябога.

«Мне б вусны астудзіць вадой,
Надыхацца аеру...»
А бог: «Піць трэба сырадой
І ў лекі трэба верыць».

«Наіўны бог, хіба мяне
Лячыць вось так пры грыпе?..»
А бог: «Расы прасіў ты ў сне,
Яна ў мензурцы — выпі».

Я п'ю. І чую ўжо праз сон:
«Ён грып асіліць. Дужы ён».

## ?

Закон валасатай рукі,
Кім першым ты быў адкрыты?
Маўчаць тэ-
а-
рэ-
ты-
кі,
Нібыта ты стаў забытым.

Маўчаць, праглынуўшы язык,
Паэты і музыканты.
І доктар. І планавік.
І парадыст языкаты.

Разводзяць рукамі, маўляў,
Пра гэта ніякіх даведак...
А як жа, закон-немаўля,
Да многіх ты сцежку праведаў?

## МАХЛЯРЫ

Гэты — на кветках махляр...
Гэты — махлюе паркетам...
Спрытна збываюць тавар
За дарагую манету.

Я не магу зразумець
Іх, павукоў прагавітых.
Мець —
Дык не грошай медзь,
А пачуцця набытак.

## АБРАЗОК МАЛЕНСТВА

Завушніцы вярбе
Падарыў юны дзень.
Певень сонца дзяўбе
У прaталай вадзе.

Слібізуе раўчук
Слоў шпачыных запеў.
Я — маленькі хлапчук.
Я — у казку паспеў.

## СТУК У ДЗВЕРЫ

— Каго гэта ноч на парог прывяла?
Мо сон мой парушыла добрая фея? —
Пытаюся,
Выйшаўшы ў сенцы з цяпла.
І чую ў адказ:
— Заве-ея...

## РАБОЧАЙ ЗМЕНЫ РАТНІКІ

Не знаемся з нямогласцю,
Прадзедаў дужых праўнукі!
Ідзём вяснова, молада,
Рабочай змены ратнікі.

Заводскіх гмахаў «готыка»
Вядзе ў цахі — спяжынамі.
І пад нагамі гоцкае
Зямля, як пад спружынамі.

Мы мазалёў адмеціны
Усведамляем правільна.
А сіла ў нас замешана —
На сіле нашых прашчураў.

## У ЛІЦЕЙНЫМ

Нібы ў заранках
Мы злева й справа,—
Цвіце ў вагранках
Металу лава.

А іскраў пыркі —
Дзевятым валам...

Завод прапіску
Даў не на мала:

Амаль гадзіну
Сведкамі будзем,
Як штохвіліну
Шчыруе будзень.

Не ўтохся ён
У спякотным цэху —
Бярэ разгон,
Працуе на ўцеху.

Рабочы на месцы —
Яго намеснік.
...Лунаюць усмешкі
Сяброў нямецкіх.

## МАНАЛОГ ПАДЗЯКІ

За тое дзякуй, лёсе мой,
Што даў спазнаць рабочы гарт
І даў праверыць,
што я варт
У паўсядзённасці зямной;

Адухавіў мяне цяплом,
Дабром да ўсіх істот, што ёсць,
Даў зразумець,
што я не госць
Пад пругкіх аблачын крылом:

За ўсё адказнасць несці мне —
За пострах кнігаўкі, жаўны,
За вечны неспакой зямны,
За клёкат бусла на сасне...

Ад сэрца ўдзячны я табе!
Ды чым сплаціць змагу даўгі
За дзень,
да скону дарагі,
Калі паверыў я ў сябе?



*Журналісту В. Кошалю*

Нам з табою, Вася Кошаль,
Не патрэбна лек:
Захапі лазовы кошык —
І гайда у лес!

Накіруемся за Гайну,
Дзе сасняк густы,
Дзе гукае рэха: «Ган-на-а!..» —
Аж трымцяць кусты.

І грыбоў, і зёлак розных
Назбіраем мы.
І прапахнем летам росным —
Да зімы!



Паэт
　　чытаў уголас
　　　　　　сябра вершы —
І радаваўся ім, нібы дзіця,
Бо столькі ў іх было
　　　　　　　святла і веры
І столькі пачуцця і адкрыцця!

Не ведаў ён, дзівак:
Праз нейкі год —
Іх сябар знішчыць,
　　　　　　　бы чарвівы плод...

* * *

Палоннікі сваіх кватэр...
Паломнікі камфорту...
А ты — утульнасці не вер:
Адкрый у лета фортку.

А ты ўдыхні акацый хмель,
Прастор адчуй гуллівы.
І станеш, быццам дзікі чмель,—
Вясёлы і шчаслівы.

## МАТРОНА

— Ты ведаў Матрону?
— Але.

Труна паплыла па сяле.
Старыя ішлі за труною,
Ды мы — ў задуменні — з табою.

А лета буяла. Цвіло.
А лета спявала. Гуло.
І толькі старэнькай Матроне —
Нябачна, нячутна сягоння...

Яна аджыла... Адхадзіла...

Яна трох сыноў нарадзіла,
Ды хіба яе ў тым віна,
Што ўсіх іх забрала вайна?!

А шэсце ішло праз сяло.
І горна, і крыўдна было.

## ЗАПРАШЭННЕ Ў ГОСЦІ

*Уладзіміру Мазго*

За крыніцамі буркатлівымі,
За палянамі верасовымі —
Дрэмле вёсачка
з чарнаслівамі
І налівамі адмысловымі.

Там частуюць госцейкаў — шурпамі,
Запрашаюць за стол — сябрынаю.
Там слывуць гаспадыні — шустрымі,
А мужчыны — на рэдкасць спрытнымі.

Там дзяўчаты ёсць — на любы падбор,
Прыгажэй і мілей адна другой.
Вось мінём цар-бор, выйдзем на медазбор —
І тады любой
Прысвячай верш свой!

## БАЛАДА
## ПРА ПАРТЫЗАНСКУЮ ЗЯМЛЯНКУ

Ірвала маці валасы
У лютым горы...

Блудзілі дзетак галасы
Дрымучым борам...

Блудзілі ў глозе, верасах.
І плач не моўкнуў.

А побач — жах,
А побач — страх,
Круты, няўмольны.

Ваўкі — гайнёю
Па слядах
Ішлі дзіцячых.

І набліжалася бяда,
Спеў міг лядачы.

Ужо
Чуцён падступны крок
Злаславай смерці.
Ужо між дрэў
Галодны воўк
Ахвяр прыкмеціў.

І раптам стрэліла лаўжо...
Памеркла ярасць...
Звер блізка-блізка падышоў...
А дзе ж ахвяры?

Надзейна схована дзятва:
Снуюць пачвары,
А у зямлянкі з-пад брыва —
Вачэй дзве пары...

...На трэці дзень
Знайшоў ляснік
Прапажу маці.
І чорны смутак раптам знік —
Світае ў хаце.

7 Зак. 890

## МЕЛОДЫЯ

Мне падабаецца
мелодыя,
Якая
Сэрцам завалодвае,
Якая плаўна, пакрысе —
Нясе ў Сусвет цябе, нясе...



Адкрываем нябачныя воку зоркі.
А не заўважаем цэлых сузор'яў:
Гляньце,
Як хараша гараць яны
На заснежаных дрэвах —
Сузор'і снегіроў...



Просіць сябар: «Давай спяём,
Наша песня яшчэ не спета...
Мы ж — запрошаны салаўём
На гуллівае свята лета».

«Не крыўдуй,— я кажу,— стары,—
З салаўём цягацца — нягожа:
Паспяваць мы з табой — майстры,
Але так зацягнуць ці зможам?..»



Хто ў багі, хто ў бажкі, хто ў прарокі...
Я ж — зусім не раўнівы да славы:
Быў бы поўдзень блакітным, высокім,
Не пакінулі б добрыя справы.

На жыццё пагдядаю цвяроза.
Ад сяброў не хаваю сакрэтаў.
І прымаю баксёрскую позу
Толькі перад падонкам адпетым.

Ходзяць іншыя хай пры парадзе,
Я ж — будзённым заняткам шчаслівы.
Болей — веру сяброўскай парадзе.
Меней — пошлай усмешцы ліслівай.

## ЗАКЛІНАННЕ

Калі б я быў набожны чалавек —
Я памаліўся б за спакойны век,
За радасць і за шчасце ўсіх людзей,
За заўтрашні бясхмарны дзень,
За Пікасо галубку над зямлёй —
Надзея і збавенне нашы ў ёй...
Але я атэіст. І ў апраўданне
Я прамаўляю гэта закліанне:

«Пакуль Зямля стаіць на трох кітах
Ці круціцца вакол нябачнай восі —
Устань, рабочы, і устань, ратай,—
Гудуць над светам «Першынгі», не восы...
Гудуць, каб атруціць пагодны дзень,—
Даліны, вісажары, пушчы, рэкі,
Каб на Зямлі з сягоння і навекі —
Застаўся толькі хіжай смерці цень.

Устань, устань змагацца, чалавек,
За свой дваццаты, свой пакутны век!
Устань!..
Над рыкам жудасным ракет,
Уяўнай цішынёй падводных лодак,
Над космасам, які трымае свет
У страху звышвар'яцкіх зводак.

Бо, можа стацца,
У адзіны міг —
Бяда перасягне наш зрок і слых,
Бяда, якой ніхто спыніць не зможа.
І на Зямлі, спазнаўшай столькі ран,
Атрутна завіхурыцца уран,
Жыццё сваё закончыць падарожжа.

Я не фанатык, не вар'ят, паверце.
Я — чалавек і — верце, людзі, мне! —
У жмуркі не хачу гуляць са смерцю,—
Давайце
шансаў не дадзім вайне...

Мой крык, як рана у грудзях скразная,—
На барацьбу са смерцю
Заклінаю!»

## НА ПАРОМЕ

Маленькі,
Маленькі паром,
А з хвалямі — кінуўся біцца...
Вось так і маленькі народ:
Як трэба — арды не збаіцца.

# ФУТБОЛ

*Алесю Камароўскаму*

Давай, паэт, згуляем у футбол
З двароваю камандай басаногай.
Хай хлапчукі заб'юць чарговы гол!
І мы заб'ём. І нават многа.

Бяды такой, калі прайграем мы,
Бяды такой, калі асудзяць людзі,—
Мы з радасцю дзіцячае гурмы
Усё ў жыцці няскладнае забудзем.

Мы пасмяёмся з дзецьмі ад душы
І над жыццём, і над дзівацтвам гэтым.
А заўтра — зноўку прозай будзем жыць,
Яна заўжды надзённы хлеб паэтаў.

Паэт, давай згуляем у футбол,
Давай сябе адчуем хлапчукамі.
Якая радасць: кожны хлопчык — бог!..
Якая радасць: ...босымі нагамі!..

Шаленства дух, гарачы дух гульні —
Няхай ахопіць нас, няхай захопіць.
Яны чакаюць, дзіўныя,— зірні!
Яны — згуляць папраўдзе з намі хочуць!

І мы згуляем. Га? Згуляем мы?
І ты ківаеш: добра, мы згуляем.
І льецца смех дзіцячае гурмы,
На подзвіг — на гульню! — нас благаслаўляе.



Куды спяшаемся, ляцім?
Што адшукаць? Што здзейсніць хочам?
Імклівы час, як пілігрым,
З нас здзекліва ужо рагоча.

Пара б — крыху пасумаваць.
І пасмяяцца. І паплакаць.
А мы — каб кругам галава,
Каб з шыкам праматаць зарплату.

Заўжды — на повадзе ў чынуш,
У легкадумных спрэчак, звадак.
Самазнішчэнне нашых душ...
Адсюль бярэ яно пачатак.

Адной хвіліны не стае
Суцішыць лёт, пабыць сам-насам...
Дык спынімся, сябры мае,
Падумаем пра гэта разам.



На падворку пахне глінаю
І карой сухіх арэшын.
Быццам бы гняздо курынае,
Шапка бацькава ў застрэшшы.

Бестурботліва гайдаецца
На ігрушыне шпакоўня.
Неяк здзіўлена ўглядаецца
На мае ладункі поўня.

Ну а я, хадой знясілены,
Дзятлавай чаргой прашыты,
З трапятаннем рук раскрыленых
Маці кінуся на шыю.



Падштурхоўвае ў спіну вецер,
А існі неахвота —
Ад радзімых матуліных весніц,
Ад яе адзіноты.

След губляецца ў травах, віхляе,
А спіной сваёй бачу:
Мама ціха сябе суцяшае
І ўпаўголаса плача.

І, насуперак лёсу і ночы,
Я вярнуўся назад тым жа следам...
«Што з табою, сыночак?»
«Заўтра, мама, паеду».

## МАЛЮНАК ЛЕТА

У лужку — вады па костачкі,
Косы свішчуць бакасамі.
І касцы, атаву косячы,
Зноў калошы падкасалі.

І ужо чарнеюць купіны,
Зняўшы пекныя папахі.
А вада — хоць чэрпай кубкамі! —
Хмельным водарам прапахла.

Коням — вольніца на выпасе.
Пераклічка ў травах птушак.
...З-пад касы бакасік выпырхнуў —
І схаваўся. Не варушыцца.

## ПЕСНІ НЕ ПАМІРАЮЦЬ

*Памяці Дзіна Рыда*

Амерыка!..
Ты не аглухла
ад рыку машын.
Амерыка!..
Ты не аслепла
ад бляску рэклам,
Калі твой чэсны,
верны сумленню сын
Песняй міру
вітае Нью-Йорк — і Патсдам.
Амерыка!..
Ты не счарсцвела дарэшты
душой.
Амерыка...
Голас народа твайго
не ачах,
Калі пад небам нашым,
над нашай зямлёй —
Песні
Дзіна Рыда гучаць.
Амерыка!..
Ты не згубіла веру
ў заўтрашні дзень.
Амерыка!..
Ты не дала сябе
лютасці, цемры скарыць,
Калі па планеце з песняй,
нібы з паходняй,
ідзе —
Дзін Рыд.



Ад начной прахалоды
Не ўцякаю ў цяпло —
Як у лепшыя годы
Імчу за сяло,
Дзе яшчэ не прымяты
Ні раса, ні трава,
Дзе ад пахкае мяты
Не баліць галава!
Заначую ля рэчкі,
Як цыган малады.
Будзе вельмі дарэчы
Буркатанне вады.
І нікому не стану
Расказваць пасля,
Як на сотню пытанняў
Мне адкажа зямля...

## УРОК ГІСТОРЫІ

Той аніколі не забудзецца урок:
«...Выводзілі дзяцей на пляц фашысты,
І ў позірках вачэй, сумленна-чыстых...»

На перапынак празваніў званок.

Вось першая дзіцячая сляза...
Яшчэ адна — і клас усхліпваў цэлы.
О, як мы кулі супыніць хацелі —
І павяртаць...
раптоўна...
ўсе назад!..

Іх свіст у маім сэрцы не ачах,—
А з дзецьмі тымі й я стаю на пляцы...
Мне зараз у жыцці калі й баяцца —
Дык страху
у дзіцячых
у вачах.

## ДАЛЬТОНІК

Пішыце!..
Пішыце, ўсе здольныя дзеці планеты:
Эльвары, Данаты, Уільямы, Тоні...
Чаму ж гэты хлопчык,
што прагна імкнецца ў паэты,—
Дальтонік?
Дальтонік па бацьку (ад генаў)
ці, можа, па маці?
Як несправядліва, гвалтоўна!..
Ды нараджаюцца, пішуцца вершы ў дзіцяці,
Хоць ён і дальтонік.
І піша няблага,
дальбог жа, няблага для ўзросту —
Упэўнена, смела.
І ёсць
нечаканыя ў думках, парой, павароты.
А колеры — чорны і белы.
«Два колеры...
Мала...— кажу яму,—
мала, браточак...»
Злуецца:
«А колькі патрэбна?!»
І я супакойваю, гледзячы хлопчыку ў вочы:
«Ты пішаш нядрэнна.
Няблага, кажу табе, пішаш,
ды колераў, колераў мала.
Бяда твая ў гэтым».
І хлопчык кідае з парога:
Ды вы згаварыліся з мамай!..»

А мог бы стаць добрым паэтам.

## А. ВАЗНЯСЕНСКІ Ў МІНСКУ

Паэзія — гэта не проста удача,
Гэта не проста святая праўда...
Паэт чытае — і зала плача...
Паэт чытае — і ў зале радасна...

На вечар паэта ідуць без ваганняў
Студэнты,
рабочыя,
псеўдапаэты...
І тыя,
Хто ў творчасці мае прызванне.
І тыя,
Хто творчасцю іншых сагрэты.

На ўсіх іх — пароўну і шчасця, і болю,
Пароўну дабра,
і любові,
і плачу.
І дзеліць, і дзеліць на роўныя долі
Паэтава сэрца сябе — без астачы.

Бязлітасных воплескаў выбухі ў зале...

Скажыце, паэт, вы не ўсё шчэ сказалі?
Скажыце, паэт, вас не ўсім шчэ хапіла?
Не ўсе шчэ спазналі душы амплітуду?
Вам цяжка ужо
усміхацца праз сілу...
Але шчэ цяжэй —
адлучыцца ад гуду...

Чытайце, чытайце, прафесар пачуццяў,—
На вечары гэтым — вы сталі кумірам.

І дай жа вам бог
заўсёды пачуці
Такое прызнанне
узбуджанай ліры...

...І вось ужо зала — прыціхла пустынна.
Са сцэны
паэта праводзіць удача.
Душой сваёй сёння
застаўся ён з тымі,
Каму аддаваў яе ўсю — без астачы.

## ХОР

Затрызвоніў бор усяляк:
Птушкі правяць сваё ігрышча.
Ці малінаўка ў кроне, ці шпак,—
Хто там свішча?

У калматай лясной барадзе —
Салаўі і дразды ў гуморы,
Кожны песню сваю вядзе
І зліваецца ў велічным хоры.

Не распуджвайце гэты хор
Стрэлам,
крыкам,
магнітафонам.
Дырыжорам — дрымучы бор,
Векавечны,
мудры,
зялёны.

Пачысцееце сэрцам вы,
На канцэрт
завітаўшы гэты.
Песню птахаў,
песню травы,—
Песню слухайце лета!

Шчодра —
з радасці ці з бяды? —
Дорыць песню
прырода людзям...
Звар'яцее з нас кожны тады,
Калі песні гэтай не будзе.

## АДНАМУ ЗНАЁМАМУ

Прысядзь.
Задумайся спярша:
Што напісаў?
Што зараз вершыш?
І ці прапісана душа
У кожным дні,
У кожным вершы?

## ШЛІПАЎКА

Засціцца неба шэрай смугою,
Снег пад нагамі спацелы рыпіць.
Хочацца сэрцу пары лістабою,
Хочацца ў лузе стагоў навяршыць.

Доўгія ночы. Сабакаў вяселлі.
Не заціхае іх брэх і выццё.
Цягне сырым з палыселых аселіц,
Холад у горле пяршыць, як асцё.

Лезе туман пад крысо зухавата.
Крэкчуць галіны пад ветрам у дрэў.
Дзіўнае крыху сабачае свята —
Шлюбны іх грэх.



Светлае дзіва: падае снег
На дрэвы, на кожны лісточак апалы.
Вавёрка па сцежцы коціць арэх —
Ён робіцца пульхнаю снежкай памалу...
Здзіўленне вавёркі. Здзіўленне людзей.
Першы снег... Ён заўжды чарадзей!

## ПІСЬМЁНЫ

Ад мітусні, утульнай цішы
Гайда
у дзіўны край —
Палессе:
Там
нам звяры
на снезе пішуць
Свае аўтографы
у лесе.

У слаўны дзень,
пагодны, светлы,
Давай
забудземся на стрэльбу.
Нас кожны птах тады прывеціць,
Нас кожны звер
з даверам стрэне.

Мы прачытаем іх пісьмёны,
Ля іх жытла паходзім блізка.
І будзе
міг той благаславёны
Часовай
нашаю
прапіскай...



Напаі вадой каня.
Голубу дай жменю проса.
Пасадзі на пустцы дрэва.
Госця накармі з дарогі.
Кветкі падары каханай.
Крок зрабі насустрач сябру.
Выратуй [illegible] бяды суседа.
Хвораму — дай паратунак.
І тады толькі, паэт,
Спавядайся перад светам...

## З СЯБРАМІ Ў ПАРКУ ГОРКАГА

### ЭКСПРОМТ

Забыты рык машынны,
І тлум, і вэрхал горада.
Як лекі — спеў птушыны
У парку Горкага.

Траха як у бары:
Святочна дрэвам, гонка.
Частуйцеся, сябры,
Шпачынай мовай звонкай;

Фантанчыкам вады,
Вавёрчыным даверам
І ветрам маладым —
Вясновым ветрам...

## ЧОРНЫ БУСЕЛ

### СУЧАСНАЯ БАЛАДА

Ляціць ён над зямлёй, крылаты, вольны,
Ні сонцам не пакрыўджаны, ні ветрам,
Здзіўляе сваёй статнасцю і сілай —
І хораша на сэрцы і ў прыродзе.

Здаецца, што дужэй няма на свеце,
Няма цудоўней, прыгажэй птушыны,
Як узлятае ён з таго гняздоўя,
Што ў заазер'і, на кунатай грушы.

А грушы той — зайздросціць лес, і поле,
І ўварнік, ля рэчкі засмучоны.
Як могуць, дружна цягнуцца да птушкі
Цыбаты ясень і трава густая,
Калі яго палёт над імі кружыць.

Ды раптам — заламаны крылы ў небе...
Ніжэе цела летуна над вёскай...
І блізка дахі хат і агароджы...
І ў прадчуванні горасці — ваколле...

...Схавалася за хмару ў страху сонца,
А вецер наляцеў, варушыць пёры
І б'ецца долу тварам у бяссіллі,
Ды шчэ мяне прыводзіць у прытомнасць.

Я стрымгалоў прымчаўся, лёг ля птушкі,
Прыклаўшы вуха да грудзей адразу,—
І неруш болю сцяў самому грудзі...

І доўга біў я кулакамі вобзем,
Працягваў рукі промням і нябёсам,—
Ды памагчы яны былі не ў сілах.

Аддаў бы я жыцця свайго палову...—
Бо ведаў, што тваіх сабратаў чорных
У краі у маім — на пальцах злічыш.

Але і я бяссільны быў прад смерцю,
Ці немаччу раптоўнай, што згубіла
Цябе, мая крылатая птушына.

. . . . . . . . . . . . . .

А ён ляжаў — маўкліва-безнадзейны...
І плакаў я...
І плакала ваколле...

## СУСТРЭЧА

— Радасць тваю, жуду маю —
Усё перамеле час.
Давай пасядзім, падумаем,
Што заўтра чакае нас.

Паспавядаемся трохі
Адзін аднаму.
Мы — дзве сцяблінкі эпохі
Шчасця і мук.

Дзве перапоўненых чашы
Мрояў, трывог.
Здабыткі, пралікі нашы —
Не толькі нашы, дальбог.

Давай разгавеемся ўмеру
На роздум, давер,
Адрынем сябе ад папераў —
Душа ж не з папер...

— Дзівак... Дажывём да суботы,
А там —
Нагаворымся ўсмак:
Паспавядацца ахвота,
Ды часу няма.

## ЛЮБОЎ МАЯ

*Петрусю Макалю*

Чырвоным колерам жыцця
Твае асветлены прасторы,
Зара свой падымае сцяг
Над прахалодаю азёраў.

Ласём затрубіць Панямонь —
Зубр адгукнецца ў Белавежы,
Гарыць калін жывы агонь —
Радзіма!.. Вольнае бязмежжа!..

Зямля мая, любоў мая,
Калыска Коласа, Купалы...
Крыніц нязмоўклая бруя
Звініць, пяе, нібы цымбалы.

Не сірата я тут, між дрэў,
Пад кронай вечнасці высокай,
Дзе чуцен звон, дзе чуцен спеў,
Дзе ўцешна вуху, ўцешна воку.

На гэтай праведнай зямлі,
Што не скарылася навалам,—
Мы ўсе, як дрэвы, прараслі
З палегліц,
з попелу,
з металу...

І наш асветлены прасцяг
Не толькі мараю адзінай —
Чырвоным колерам жыцця
І белым — ад бяроз радзімы.



Я з неба зор нікому не дарыў.
Не абяцаў нікому шчасця горы.
А ўсё ж
мяне не кінулі сябры,
Калі ў мой дом пастукалася гора.

І я не ў крыўдзе на свой лёс зямны,
Дзе ўперамешку радасці і беды:
Калі няўдачы — больш маёй віны,
А ўдачы — без сяброў бы іх не зведаў.

Жывому — жыць. Аджыўшаму — спакой.
Не дай, жыццё, зазнаць спакой мне рана,
А дай аддзячыць
дабраце людской —
Яна мне столькі залячыла ранаў!

## КРАІНА ДУШЫ [1]

Святліста на душы —
Каўказ цябе прывецiў:
Аблок капелюшы
З вяршынь здымае вецер.

І ты свой капялюш
Далоў — шчыруе лета!
Краіна пекных руж
Сама — нібыта кветка.

---

[1] Так спрадвеку называюць Абхазію.

Не прэснаю вадой —
Напоўні келіх морсам.
І чокнецца з табой
Паўнюткай чашай мора.

А сонца да касцей
Прасмаліць тымчасова —
Да гор трымай свой рэй,
Там снег, там шал зімовы.

Калі ж нарэшце змог
Падняцца на вяршыню,
Там будзеш жыць як бог —
На вейнай аблачыне.

## КАМЯНІ АБХАЗІІ

Гісторыя не пішацца пяром —
Гісторыя ствараецца вякамі.
Я чую войнаў вынішчальны гром,
Галоў гарачых хруст пад тапарамі.

Пра многае расказвае зямля,
Дзе крапасных байніц, як хваль у мора.
Сюды зусюль — і зблізку і здаля —
Шалёным смерчам налятала гора.

Ні малярыі мор не абмінуў,
Ні землятрусу грозная стыхія...
З сівое, пракаветнай даўніны
Глядзяць на нас сурова камяні,
Што ўсцяж дарог стаяць, як вартавыя.

## НА ВОЗЕРЫ РЫЦА

Над гарой туман курыцца,
Хмараў ветрае крыссё.
А вадзе спакойна ў Рыцы,
І ў вадзе адбіта ўсё.

Толькі спуджвае адбітак
Чайка вольная крылом.
І тады гара — нібыта
Хваляй спуджаны паром.

І тады душы гарэзна
Ад таго, што ў той вадзе
Я купацца буду, грэшнік,
Хоць, гавораць, быць бядзе.

## НОВЫ АФОН

Глядзіцца зусім не нова
Новы Афон.
Тут Чэхаў
невыпадкова
Трапляў да прыроды ў палон.
У сонечны дзень пагодны
Любіў захапляцца гарой,
Скуль,
больш чым высакародна,
Крэпасць
вачэла са стром.
А скалы насупяцца раптам —
Сыходзіў адсюль хутчэй:
Змарудзь — і не будзе рады,—
Лавіна
ў свой вір
урачэ.
Глядзіцца зусім не нова
Новы Афон,
Хіба што
Турыстаў галовы
Узняты
на новы фасон:
Камеры зеўрацца ўгору,
Стракочуць,
нібы камнепад.
Кожны турыст
у свой горад
Часцінку радасці
звесці рад.

Я ж — сэрцам лаўлю твой погляд —
Новы Афон.



Новаафонскія пячоры,
Вы як магніт для белых, чорных,
Для ўсіх, хто мае срэбра, медзь
На вашу існасць паглядзець.

Я не апошні з дзівакоў,
Але, не скупячыся часам,
У раз каторы ўжо прыйшоў,
Каб з вамі памаўчаць сам-насам.

Ды толькі не маўчыце вы,—
Грымяць падземныя грамы:
Бурліць вада ў глыбінных нетрах,
Спявае дзынькannем паветра.

Стыхій падземных гэта стогн?
Ці, можа, блізкі пошчак мора?
Новаафонскія пячоры! —
Сто таямніц... Загадак сто...

## РЫНАК У ГАГРЫ

Не млей, гандляр, не ўкраду
Ні кашалька, ні грошай,
Ні дарагой памады,
Ні супермакінтоша.

Да іх няма мне справы,
Адно б украў, здаецца,
Абхазачкі смуглявай
Зажуранае сэрца.

## ВЕРШ, НАВЕЯНЫ ЎСПАМІНАМ ПРА ВЯЧЭРУ Ў СТАРОГА АБХАЗЦА

Якою ты, шчодрасць, бываеш маленькай,
Якою ты, шчырасць, бываеш вялікай...
Звычайнае — а выклікае здзіўленне:
Стары чалавек мяне ў госці паклікаў.

А дзіўна з таго, што ўсё маем з ліхвою,
А ўсё ж не клапоцімся пра сябрыну,
І старац, з сівою як лунь галавою,
Бывае скупейшым за ўнука ці сына.

А тут — як з'яўленне Хрыста народу —
Дань цёплай павагі, дань высакароднасці:
Тутэйшы абхазец — ён не на падпітку! —
Частуе мяне вінаградным напіткам.

І хораша, цёпла на сэрцы ў старога,
Што я падымаю паўнюткаю чару
І хоць адпіваю, прызнацца, нямнога,—
Затое раздольна і думкам, і марам.

Вячэра на славу. І мне даспадобы,
Што я парадніўся душой з чалавекам
І з песняй народнай, чысцейшае пробы,
Што тут і гучыць, і гучала адвеку.

Абхазец спявае, спявае узнёсла,
І рэха разносіцца па цяснінах...
Два лёсы людскія — два розныя лёсы —
З'яднала сябрына.

## ЗНАЁМСТВА З МОРАМ

Я ў мора ступіў, дзе вада ледзяная.
І ўздыбілася
Яно прада мной.
І кожнай хваляй мяне праганяе:
«Ідзі адсюль! Не жартуй са мной!»

Наіўны, я хвалям насустрач рушыў,
Але не праплыў і двух метраў яшчэ,
Як мора шпурнула мяне на сушу:
«Прэч, неслух, з маіх вачэй!»

## ЗАБІТЫ ДЭЛЬФІН

Дамоў заўсёды ісціна вядзе.
*Анатоль Сербантовіч*

Не будзем плакаць — плача хай душа
Над гэтым целам, выкінутым з мора.
Ён мала жыў: нібыта хвалі шал,
Яго жалезны вінт падмяў матора.

Не ведаў штурман — курс свой не змяніў,
Каб не губіць жыццё яго на ўзлёце.
Дэльфін жа плыў, ён радаваўся, жыў,
Хоць на апошняй, на крывавай ноце.

Дамоў заўсёды ісціна вядзе —
І ён пайшоў дамоў, на дно марское.
Ды вынесены з дому па вадзе,
Каб пажурыць відовішча людское.



Як кветка белая магноліі,
Ты паплыла пад хваляў шум,
Незагарэлая ніколечкі,
Агонь мне кінула ў душу.

І я не мог заснуць да раніцы —
Крычы хоць крычма, хоць маўчы...
Як лёгка аб цябе параніцца.
Як цяжка рану залячыць.

## СПЁКА

На вуліцы Важа Пшавелы
Дзяўчаты ад спёкі шалелі,
А поруч, ля Чорнага мора,
Быў рай, былі снежныя горы.

Паўднёвыя цуда-кантрасты,—
Шчыруе на сонца прырода:
Вісіць аблачынка баластам —
Ні дождж ыку, ні прахалоды...

Мядзведзіцай белаю пена
Ступае на бераг раз-пораз,
А мора ляжыць задуменна,
Напэўна, стамілася й мора.

## БЗЫБ

Пабзыкай,
пабзыкай крыху, рака,
Вадой зачапіўшыся за альшыну.
Ты,
быццам пружына,
якой для рыўка
З сілай сагнуць трэба
моцную спіну.

У мутнай,
халоднай тваёй вадзе
Ёсць
непадкупнасці прага святая:
Як ні стараецца сонца —
нідзе
Цябе й напалову
не праграваe.

Крутая, як нораў абхазца, рака,—
На дружбу з табой —
вось мая рука.

## СУХУМСКІ ПОЎДЗЕНЬ

Цалуе сонца пляжную братву,
А ў скверы — закаханых пацалункі.
Я пáдаю ў высокую траву —
Яна мне найвялікшым падарункам.

Халодная, здымае стому ўраз.
Зусім такая, як у нас пад Мінскам.
З прыемнасцю я дастаю запас
З яшчэ неадкаркованым напіткам.

А пот цячэ цуркамі за каўнер,
І я здымаю майку з позай важнай.
Ды ўжо пытае міліцыянер:
«Зямляк, ты што разлёгся, як на пляжы?»

## ДАРОГА ЎГОРУ

За пераваламі — перавал.
І млоснай робіцца дарога.
Ноч. Страшна завішчаў шакал,
Відаць, параніўся, нябога.

Каменне сыплецца й на нас —
Не то з нябёс, не то з вяршыні.
Ды сябар суцяшае ўраз:
«Нялёгка, браце, браць вышыні».

## ЮПШАРСКІ ВАДАСПАД

Шуми, шуми с крутой вершины,
Не умолкай, поток седой.

*Я. А. Баратынскі*

На слова не скупы,
Я тут прымоўк адразу:
Стаяць вады слупы,
Як прывідныя вазы.

Ах, горы, не бяда,
Што дом мой дзесь далёка.
Пакуль шуміць вада —
На сэрцы лёгка-лёгка.

Юпшарскі вадаспад,
Фантазія жывая!
Адвесці як пагляд
Мне ад цябе — не знаю.

Ужо ў аўтобус гід
Заве. І блізка вечар.
А мы — два берагі,
Што злучаны сустрэчай.

# БАЛАДА
# ПРА ЧАЛАВЕЧНАСЦЬ

*Раману Тармолу*

Кабеты, схаваўшыся пад парасон,
У карты гулялі спякотнай парою.
А хвалі марскія спрыялі настрою,
І вольна бег час, нібы казачны сон.

Лавіла брыдотных мядуз іх дзятва.
Як з цацкай, яна забаўлялася з морам.
Ды вецер падзьмуў — і пляж выгукнуў хорам:
«Ратуйце дзяцей, набліжаецца шквал!»

І ўздрыгнула мора, як спуджаны конь.
І пляж мурашнікам заварушыўся.
Зірнулі кабеты ў ваду, баючыся,—
Трымціць над вадой белай ручкі далонь...

Асілілі большыя дзеці ваду,
А меншай — не справіцца з цяжкаю хваляй.
І два галасы слёзна ўскрыкнулі: «Ва-аля!» —
Іх крык нёс і боль, і адчай, і жуду.

І покуль збіраўся натоўп разявак —
Паэт у кіпучую кінуўся пену:
Быў бой за жыццё, трапяткі, вокамгненны,—
І сэрца, і мышцы забіліся ў такт.

І вось ён дзяўчынку дагнаў пад вадой,
Ды сілы — шалёныя хвалі забралі.
А людзі стаялі, а людзі маўчалі.
І толькі стыхія шумела бядой.

З маленькай дзяўчынкай ён плыў пакрысе,
Рукам і нагам наракаючы: «Што ж вы!..»
Знямелыя, чулі яны тыя позвы...
І вось ён дзяўчынку на бераг нясе.

Накінуў на плечы яму нехта плед,
Дзяўчынку прыняў з яго рук тымчасова...
І ўпаў ён, і не прамовіў ні слова,
Зірнуўшы ганебна на пляжных кабет.



«Не глядзі так дзікавата
На мяне, гаранка.
Напаі крутой гарбатай,—
Пасядзім да ранку».

А яна: «Пабойся бога!
Не гуляй з бядою...»
І сабрала на дарогу
Хатулёк з ядою.

## СУБТРОПІКІ

Яшчэ і хмары не было,
А ўжо паліўся дождж як з луба.
І ўсё раптоўна загуло,
Бы горы затрубілі ў трубы.

Хавацца позна — пастаім,
Прамокнем да апошняй ніткі!
З нас кожны зараз — пілігрым,
Людской насмешкай знакаміты.

Ён цёплы, летні дождж грыбны.
І радуюся я нагодзе,
Што з неба — лупяць перуны,
А мы нікуды не сыходзім.

## ЛОЦМАН

Прапахлыя таранкай,
Салёныя — аж жах! —
Я хвалі так тараніў,
Што рыбай сам прапах.

І ўжо з усмешкай хлопцы
Сціскаюць мне руку:
— Ты не забыў нас, лоцман?!
— Вячэру рыбаку!..

## НА ЦЕПЛАХОДЗЕ «ЛАСТАЎКА»

На цеплаходзе «Ластаўка»
Плывём, на мора ласыя.
Патлатыя і лысыя,
Гарым на сонцы лісамі.

Хто — збег ад жонкі ўласнай.
Хто — ад апекі цешчынай.
Жывём — сваёй уладай.
І сытна нам. І ўцешна.

Ды цяжка з тым мірыцца,
Што з некім пасварыцца.

## ВЕРНАСЦЬ
## ГОР

Пакрыты горы снегам,
Толькі снег
Не засмучае летняга настрою.
І нават дзіўна,
Што такой парою
Ляжыць уладна
На вяршынях снег.

Давай затрубім
У бычыны рог —
І смехам абмяняемся з гарамі,
І горы неадступна, далібог,
Як цені,
Пабрыдуць услед за намі...



Ах, мора! Не прасі мяне,
Каб адбываў радоўку.
Паеду ў край свой сіні,
Які прысніўся зноўку.

Дзе бэры будзяць раніцай,
Згарчэлі сокам вішні...
Хай сэрца зноў параніцца:
«Ніколі тут не лішні...»



Я палюбіў цябе, Абхазія,
Не за шашлык,
што смачна еў,—
За мудрасць, шчодрую фантазію,
Народных песень дзіўны спеў.

Ад гор Пшагішха, Гегі [1] клёкату —
Да ўсмешкі старца за сталом
Я палюбіў цябе,
далёкая,
І за гасціннасць — б'ю чалом.

Высакагорная і гордая,
Сваёй не ўступіш правата.
Як госць,
адчуў з сапраўдным гонарам,
Што беларуса любіш ты.

На «ты» хоць стану
з тундрай, сопкамі,—
А сябар твой да скону дзён,
Бо
ў кожным воблаку высокім —
Твой профіль будзе мне відзён.

---

[1] Гега — рэчка ў Абхазіі.



* * *

Павялі, заваражылі
Сцежкі вольныя, лясныя.
Закружылі, закружылі
Пахі шчодрыя, зямныя.

Не надыхацца травою!
На цябе не наглядзецца!
Ах ты, шчасце маладое,—
Воч два поўныя азерцы!..

Рызыкую: кавалерам
Ля цябе хаджу з усмешкай.
Шчасцю ж веру — і не веру:
— Пагадай: «арол» ці «рэшка»?..

У траву ляцяць манеты,
Следам — мы у адначассе...
— Дзве «арол»... На шчасце гэта?
— Кажуць, лю́бая, на шчасце!



Баюся прадказваць,
што будзе за нашай вясной...
Ці вечнае лета? Ці, можа, зіма неспадзеўкі?
Захоплены ўсім: гаманою тваёй — і маной...
Захоплены ўсім —
ад цябе мне нікуды не дзецца.

Сябе ненавіджу. Цябе — усё болей люблю.
З табою лаўлю,
можа, лепшыя ў свеце хвіліны...
Прыходзіць каханне на грэшную гэту зямлю —
І сэрца камусьці свайго аддаеш палавіну.

## ГРОНКА
## РАБІН

Узнаўляецца
Мілы пагляд:
Праяўляецца фота.
Майстра-фотааматар,
Я рад —
Ты ў стыхіі работы.

Чарадзейнічай, родны,
Рабі
Сваю добрую дзею:
Ажыўляй
Гронку спелых рабін,
Што ля любай ірдзее...

Мне нічога табе не шкада —
Заплачу,
Чым багаты,
Толькі здымак зрабі — і аддай
Гэта
    радасці
        свята.

Не таму,
Што Яе не стане,
Што жыву Ёю ў марах...
Проста
Радасць на твары Яе.
Проста
Восень да твару.

Кожны штрых (я малю!) зберажы,
Кожны ўсплёск летуценны —

Захаплення,
                    усмешкі,
                              душы
І... рабіны ірдзення.

Заклінаю цябе,
Чым магу,
Блаславляю на чары! —
І сваю
Спапяляю тугу
Ў гронкі
            светлым
                        пажары...

## РАНІЦА

Згінуў шэры прыцемак —
Уставай:
Завітаў у прыгарад
Белы май.

Галасы галёкаюць
На двары.
А сцяжыны глёўкія —
Да пары:

Сонцам перамытыя,
Запыляць...
Паімчымся мы — ты і я —
Ў гай — палац.



Ты — маё вяртанне ў маладосць,
Ясных дум і мрой наканаванне.
Я — абраннік твой. І я — твой госць.
І палоннік твой — і бог да рання.

Ні трывог, ні смутку, ні журбы.
Ад вачэй людскіх — мы так далёка.
Нават поўня, сведкай каб не быць,
Воблакам сваё прыкрыла вока.

Ціш якая! І туман — як дым.
А пачуццям — ні канца ні краю.
Бацька Нёман плёскатам сваім
Нашаму дыханню патакае.

Збудзься
Самай светлаю ў жыцці.
Збудзься незалежнаю, як неба.
І свяці мне, ўсё жыццё — свяці.
Ну а больш? Нічога больш не трэба.

9 Зак. 890



Трашчалі халады.
Ляцелі завірухі.
І я — тваёй хады
Губляў сляды і рухі.

Трывожыўся часцей.
Вывучваў гам птушыны.
Сарока на хвасце
Прыносіла навіны.

Казала,
Быццам ты
У лесе дзесь зблудзіла.
Казала:
Залаты
Аб корч абцасік збіла.

І я імчаў, як лось,
Праз снегавей і нетры:
Знаёмы ўскрык авось
Прыблізіць голас ветру.

...Сплыла вада адліг
І веснавых галявін.
Дзе голас твой заціх?
З якіх такіх абставін?

Сумую па табе.
Ды сумам —
Ці паможаш?
А неспакой скрабе
І колецца, як вожык...



Вось і канец нашай гамане.
Муха павольна паўзе па сцяне.
Цікаюць ходзікі, сэрцам у такт.
(«Лёс звёў нас разам —
ці ўсё проста так?»)
Мушу спытаць:
— Ты кахаеш мяне?
І, быццам стрэл, што знянацку:
— Не.

## НЕЗНАЁМКА

— З кім начавала ты на скразняках,
Не баючыся, што застудзіш плечы?
— ...
— Напэўна, самазванца-жаніха
Прычаравала да сябе навечна?
— ...
— Пра што шаптала зорам уначы,
Шчаслівая спатканнем і каханнем?
— ...
— Маўчыш, душа распусная? Маўчы!
— Нялёгкія вы задалі пытанні...



На развітанне
Сорам воч
Не ўтоіць і смуглянка-ноч.
І слова выпырхне [redacted] душы,
Як птах з гняздзечка:
«Напішы!..»



Зашугаў вясновы зеленаграй.
Зашугаў у квецені яркай бэз.
Толькі дзе ён, той незабыўны май?
Ці зблудзіў, ці ўдалеч кудысьці збег?

Ты спявала радасна на зары...
Ты вяла ўсцяж рэчкі мяне на луг...
Цікавалі з нораў сваіх бабры,
Ад туману кожны — сівы як лунь.

Не цвырчалі конікі: «Да-га-ні-і!»
Не скакалі ўпарта ля нашых ног.
Сонца запавольвала прамяні,
Каб не напалохаць нас, далібог.

Дзе ты, песня шчырая, што плыла?
Рэчка, што ў віры назаўжды ўракла?..
Расчыняю весніцы ў новы май,
Ды цябе, каханая, тут няма.



Ты з усмешкай прайшла ўсцяж ходніка,
Зачыніла акно, завесіла.
А было не зусім яшчэ холадна.
А было не зусім яшчэ весела.

...Пацалункаў салодкіх морыва,
У суладдзі сэрцы заходзяцца.
Шэпчуць губы ў туманным мораку:
«Ох, якая ж ты, ноч, лагодніца!..»

«Ох, якая ж ты, ноч, нягодніца!» —
За акном
Шумяць ліпы ў квецені,
Б'юць па сценах, у шыбы ломяцца,—
Запрыкмецілі, запрыкмецілі...

Хутка дзень зазвініць стазвонамі.
Хутка росы на травах выспеюць.
Не шуміце, ліпы, пад вокнамі —
Дайце выспацца, дайце выспацца.

## ТУРЫСТЫ

З адной не елі міскі,
Не балявалі разам,
Ды звёз аўтобус мінскі
У бор адзін на радасць.

Нам тут не размінуцца,
Як шпагам мушкецёраў.
Брыдзём.
Пад намі гнуцца
Лясных сцяжын рысоры.

Маўклівы і цнатлівы,
Я ўспомніў пра рашучасць.
Тваіх грудзей налівы
Вось-вось мяне расчуляць.

Мы на звярыных лежнях
Прабавім час мядовы,
Пакуль не скажаш лена:
— Ці не пара дадому?



Дык прыходзь. Будзем вечараваць.
Раскашуемся на ўспаміны.
Сядуць нашы гады ў галавах,
Нагадаюць жыцця пуцявіны...
Дык прыходзь. Будзем вечараваць.

Наплывае купальская ноч,
Свечкі вогнішчаў паліць і паліць.
Ах, не збоч, мая радасць, не збоч
Са сцяжынкі. Прыйдзі на Купалле!
Вечар блізіць купальскую ноч.

Заначуем на мяккіх лугах.
Захмялеем шчаслівым дурманам.
І ў салодкіх, загадкавых снах
Кветка папараць — знойдзе сама нас.
Заначуем на мяккіх лугах!

Дык прыходзь...

## УСПАМІНЫ
## ПРА ПЯТЫ ПАВЕРХ

Успаміны пра пяты паверх,
Пра давер твой,
Пра слова «правер» —
І адкрытае,
І святое...
Што яны?!
Ды пякуць (ты павер!)
Крапівою, яшчэ маладою.

Быццам ямкі
На шчоках тваіх,
Далікатныя,
Сарамяжныя,
Дзве рамонкі ў руках маіх
Усміхаюцца,
Звабна-важныя.

Апавіты мой дзень сінізной.
Але што яна
Без тваіх выдумак?
Самазванкай —
Самотай скразной —
Кожны ўдых мой спалонены,
Выдых.

Прачынаюся роўна ў пяць.
Людзі спяць яшчэ,
Мне ж — не ўспаць.
Дай ратунку, мадонна!
Дай
Хоць на хвілю
Вярнуць той рай,

Чарак звон манатонны!..
Не адмоўся, мадонна!

Не адмоўся сказаць
«Люблю»,
Ці «кахаю»,
Ці «трызню»!..
Рафаэлем цябе малю —
Стань
Майго уяўлення актрысай!

За Валожынам
Ці ля Ўшач
Ты сустрэнеш мяне, я ведаю,—
І душэўны сунімеш плач,
На рыданне
Наклаўшы вета.

Успаміны пра пяты паверх,
Пра давер твой,
Пра слова «правер» —
І адкрытае,
І святое...
Што яны?!
Ды пякуць (ты павер!)
Крапівою, яшчэ маладою.



Водар газона
Выманіў з хаты.
З-пад парасона —
Носік кірпаты...

Кратае струны
Громавы —
Ліпень.
Юная, юна
Крочыць у лівень.

Я ж у прысадах
Не вецяркую:
Тайным паглядам
Халасцякую...

## АБКРАДЗЕНАЯ

Люцей за спякоту,
холад
і голад —
Твой немы голас.

— Што ж ты крычыш,
быццам звар'яцелая,
Нявечыш душу?
— Украла мужа
выжла белая!
Украла му-жа...

Над сонным дваром,
Над горадам выстылым
плыве рыданне.
Плыве рыданне трывожна
і высака,
Нібы заклінанне.

— Не спіце!
(Зняверыста поўня зірнула
цыклопавым вокам...)
— Не спіце!
(Маланка наўсцяж жыганула
разгалістым глогам...)

Чаму ўсё ўначэла
І выціхла,
Вымерла?
(Вокны ж лупацяцца...)
Здаецца:
Ад слёз ужо
вуліца вымакла.
— До спаць вам!

Не бачаць...
Не чуюць...
Паснулі ўсе ў спратах —
Жанкі, палюбоўніцы.
Жанчына ратунку
У дрэў расахатых
Просіць, гвалтоўніца.

Гвалтоўніца праўды,
Гвалтоўніца болю,
Яна — непакоіцца.
А рэха —
з грудзей вылятае на волю,
Дварамі коціцца.

А рэха галосіць:
Заходзіцца раптам —
то зноў нараджаецца.
А некалі ж песняй «Ой рана на Йвана»
Плыло, маладжавае.

І слухалі далі,
І слухалі людзі
Душы шчыраванне.
Цяпер жа — ад болю
заходзяцца грудзі:
Рыданне, рыданне...

Яе б супакоіць,
Яе б абнадзеіць —
і выцерці слёзы.
Ды горла —
Ад крыўды і болю лудзее,
Хоць думкі —
цвярозыя.

Над сонным дваром,
Над горадам выстылым
плыве рыданне.
Плыве рыданне трывожна
і высака,
Нібы заклінанне.

Галосіць жанчына.
А ранкам ці ўцяміць,
Як скажуць, гвалтоўніцы:
«Ляжаць пад бярозай,
маланкай працятыя,—
Мужык, палюбоўніца...»



Не. Я не узурпатар.
І нат не госць няпрошаны.
Што ж ты, як звер у пастцы,
Дрыжыш, мая харошая.

Давай у гэтай цішы,
Дзе сведкам — толькі вечар,
Хвіліны шчасця ўпішам
У том, пад назвай «Вечнасць».

Хай душы страпянуцца
Пад конікаў авацыі...
А кветкі — разагнуцца.
А травы — распрастаюцца.



Залётнай птушынай
Заціўкала радасць
У сэрцы здзіўлёным:
Прыгожай і гордаю
Горкаўскай Радай —
Ты ў садзе зялёным.
Чаму чырванею
Салодка і мройна,
Як тая маліна?
Дзве поўні грудзей
Нетаропка і вольна
Плывуць між галінаў...
Вачэюць сузор'і.
У ногі спадаюць,
Як знічкі, ранеты...
Класічныя оды
Табе прамаўляюць
Салоўкі-паэты.
А вусны — нябачны...
А крокі — нячутны...
Ды ў сне шаламлівым —
Хістаюцца грудзі,
Як маятнік чуйны:
Я — самы шчаслівы!

* * *

След босых ног застаўся на траве.
Ён ворагаш наш, пакуль не спалі росы:
Нас можа высачыць
                                        нядобры чалавек,
Нас могуць перастрэць бацькі за плёсам.

І мы бяжым — па зёлках, па лісці —
На гала, дзе чакае нас прычасце,
Адкуль мы разам пойдзем па жыцці,
Якія б лёс нам ні ўчыняў напасці.

— Каханая! Не адставай, хутчэй!..
— Дай мне руку, о суджаны, каханы!..
А ўслед — ні галасоў і ні вачэй.
А ўслед — шумяць вясковыя каштаны.



Канапатая,
Непрыгожая,—
Пакахалася хлопцу дзеўчына.
А душою была — харошая,
Дабратою — спаўна надзеленая.

Прадракалі ім
Беды розныя:
Гора ўдосталь,
Ды мала радасці.
А яны —
На жыццё сталі родныя,
Лёсы два
залучыўшы разам.

Ёсць і дзеці цяпер кірпатыя.
Ёсць павага ў сям'і
і спагада.
Называе мужык канапатую
Па-дзявочаму: Ладачка, Лада...



Не заскуголю з болю,
Калі праткнеш вачамі...
Супрацілеглы полюс
Маёй душы — маўчанне.

Другому мый пантофлі,
Мілуй яго начамі.
Адно ўсвядомі толькі:
Не пратыкай вачамі.



Сарамяжлівымі вуснамі
Спрабавала цалаваць,
Маладая, нераспусная —
Летуценні з рукава.

Шкадавала ноч кароткую...
Шкадавала крык драча...
Шкадавала траўку росную
Ля бруістага ручча...

Абдымала і лагодзіла —
Як умела, як магла.
І ў душу маю ўваходзіла,
І ў душы маёй жыла.

Нейкай светлаю, ўрачыстаю,
Неразгадана святой
Падкупіла праўдай чыстаю
І — жаночай праватой.

...Над зямлёю распагодненай
Узыходзіла зара,
Як нясмела, але ўзгоднена
Да майго ішлі двара.

І трубілі пеўні весела.
І свісталі салаўі.
— А чаго ты нос павесіла?
— Не спытала ж... у сваіх...

* * *

За вясною — зноў зіма
На маё кладзецца сэрца.
І чакаць цяпла — дарма:
Без цябе мне зябка ў свеце.

Успаміны — як дакор:
Я ў людзей губляю веру.
Без цябе я — як акцёр
Без падтрымкі ў час прэм'еры.



Можа, і праўда гэта было? —
Зорнае неба над намі плыло,
Вочы шукалі разгадку ў вачах...
Хлебнае поле... Туман на плячах...
Можа, і праўда гэта было? —
Птушкі начной прамільгнула крыло,
Хтосьці гукаў цябе аж да відна,
Кляўся наўзрыд, што ў яго ты — адна...
Можа, і праўда гэта было? —
Возера зеўрылася жаралом,
Плёскала рыба ў халодных вірах,
Смачна суніцы пахлі ў ярах...
Можа, і праўда гэта было?..
Колькі ж вады з той пары уцякло!

●●●●●●●●●●●●●●●●●●●●●●●●●●●●●●

# ЗМЕСТ

## АРАКУЛ


*** Дарога ад парога... — 5
*** Калі адшчыруе над кветкай пчала... — 6
*** І забываюцца раны... — 7
Аракул — 8
*** Свяжак зямных дарог... — 10
*** На крылах ветру палячу... — 11
*** Што ў грудзі мне ломіцца... — 12
*** Ад станцыі «Юнацтва»... — 14
*** Аднастайна... — 15
Мёд — 17
*** А дзянёк памалу патух... — 18
Пладаносны агонь — 19
Матчына песня — 21
Курапаты — 22
Цётка Прося — 23
Пагарэльцы — 24
*** Над зумкаю песняй пчалы... — 25
*** Смуцен бор векавечны ўначы... — 26
Бяда — 27
*** У стогадовы мой юбілей... — 29
Лёс — 30
Роздум у археалагічным музеі — 31
Трывога — 32
*** Не абміні мяне, вясна!.. — 33
Сувязь — 34
Бяздушнасць — 35
*** Ходзіць дзед за плугам — лунь лунём... 36
Пра хлеб — 37
*** У лясным закутку ціхім... — 38

*** Нясвіжчына мая!.. — 39
*** Не асірацеў мой дом... — 40
*** Звяры ідуць на вадапой... — 41
У Мікалаеўшчыне — 42
*** Героі... — 43
*** Недзе ў далечы ад вуліц... — 44
Статыстыка падсвядомасці — 45
*** У вячэрняй смузе за сялом... — 47
*** Выракаемся мовы матчынай... — 48
*** Пра подзвігі так любяць гаварыць... — 49
*** На радзіме маёй зор даспелых агні... — 50
Два падыходы — 51
Ансамблю «Чараўніцы» — 52
*** Позняя, пранізлівая восень... — 53
Цацка — 54
*** Прысяду на курган... — 55
Вялікія — 56
*** Чалавечай шчырасці зямной... — 57
*** Цячы, рака мая, цячы... — 58
Плач немаўлятаў — 59
Пах роднай зямлі — 61
*** У роднай хаце — я не гаваркі... — 62
Выснова — 63
*** На экстрасенсаў моліцца народ... — 64
*** Я не зайздрошчу, час, тваёй хадзе... — 65
*** Мы даўжнікі ■ табою, брат... — 66
Паляўнічы — 67
Дзеці — 68
Фотаздымак — 69
Балада пра брацкую магілу — 70
*** Я чакаю гасцей... — 71
*** Ужо майскі вецер гуляе па скверы... — 72
*** Люблю быць сваяком... — 73
*** Як гэта цудоўна: устаць раніцой... — 74
*** Зашчымела зноў на душы... — 75
Зоркапад — 76
*** Надыдзе такая пара... — 77
*** На раздарожжы дум... — 78
*** Зямля бацькоў!.. — 79

Змей — 80
Асенні накцюрн — 81
Пытанні старому дубу — 82
Паблажка — 83
Бераг маленства — 85
*** Няпроста — існаваць на гэтым свеце... — 86
*** Патухае памалу касцёр... — 87
Шпакоўня ў лесе — 88
*** З саміх сябе мы вырастаем пакрысе... — 89
Палкоўнікі — 90
*** Народ без песень — не народ... — 92
Касманаўту П. Клімуку — 93
*** Думаю... — 94
*** Жыццё запіша ў пратакол... — 95
Славянскія песні — 96
Балада пра донара — 97
Верш на адкрытую тэму — 99
Гарадзея — 100
Вечнасць — 101
Пазіцыя — 102
Начлег з незнаёмцам — 103
*** Ад чорнай вопраткі начы... — 104
Паэтам — 105
*** Дамы́ — як людзі... — 106
Акселераты — 107
*** А вечар — дзівак! — размаўляе са мной... 108
*** Падорыць дзень мне столькі многа... — 109
Грыбная пара — 110
Муза Ашота Грашы — 111
*** Хлопцы, давайце не будзем сварыцца... — 112
*** Апусцяцца пальцы на клавішы лёгка... — 113
*** На кані, пад канём, ля каня... — 114
Натуршчыца — 115
*** Адсварацца грамы, адплача лівень... — 116
*** Паміраюць памалу дзяды... — 117
Асенні Тракай — 118
Метамарфоза — 119
У найме ў сонца — 120
На начлезе — 121

Рэха —————————— 122
Вайна —————————— 123
Хвароба —————————— 124
*** Здаецца, што неба сышло на зямлю... —— 125
*** Былі і такія, каго праклінала... ——— 126
Дуэль —————————— 127
*** Абкрадваем самі сябе... ——— 128
*** Чаму так сёння плача конік?.. ——— 129
Званар —————————— 130
*** Паволі сплываюць снягі... ——— 131
Слёзы —————————— 132
*** Прыдбаў гадоў жыццёвых чараду... —— 133
*** Так бывае ў спрэчцы... ——— 134
Допыт —————————— 135
*** Пагасцюй, завіруха, ў мяне на двары... — 136
*** «Усё ў прыродзе гарманічна!..» ——— 137
Заклінанне залатой рыбкі ——— 138
*** Аб'яўлена праграма «Час»... ——— 139
Тралёўка лесу ——— 140
Прыезд —————————— 141
*** Зацікалі ходзікі ў хаце... ——— 142
*** Шуміць за акном лістапад... ——— 143
Выпадак —————————— 144
Пірагі —————————— 145
*** «Гай бярозавы...» ——— 146
Сыноўняе —————————— 147
*** Надыдзе момант — і не спыніш слёз... —— 148
Пульсары —————————— 149
*** Вы па кім гэта, ветры асеннія... ——— 150
*** Баржу паэзіі... ——— 151
*** Пазыч мне убор свой стракаты... ——— 152
Гармонік —————————— 153
Робатам XXI веку ——— 154
*** У спеўны час вясны... ——— 156
Пра шчасце —————————— 157
*** Люблю ваш сум, асеннія лясы... ——— 158
Кантрасты —————————— 159
*** Спытай, як бор крычыць... ——— 160
Прыстасаванцы —————————— 161

Поле — 163
*** Найлепшая з усіх ідэй... — 164
*** Шчаслівага палёту, журавы... — 165
*** Каго ты, каго ты яшчэ не сагрэў... — 166
Споведзь уцекача — 167
*** Люблю вас, юныя паэты... — 168
*** За вёску адкаціліся грамы... — 169
*** Прысяга. Мы паўзводна — і вясна... — 170
Пагранічча — 171
Беларусачкам — 172
*** Ранак — запомніўся водарам мяты... — 173
Паходныя боты — 174
*** Абветраных прастораў прагне сэрца... — 175
У адказ на адну просьбу — 176
Вучэнні — 177
Хлопцы чацвёртае роты — 178
Гасціны ў бога — 179
? — 180
Махляры — 181
Абразок маленства — 182
Стук у дзверы — 183
Рабочай змены ратнікі — 184
У ліцейным — 185
Маналог падзякі — 186
*** Нам з табою, Вася Кошаль... — 187
*** Паэт... — 188
*** Палоннікі сваіх кватэр... — 189
Матрона — 190
Запрашэнне ў госці — 191
Балада пра партызанскую зямлянку — 192
Мелодыя — 194
*** Адкрываем нябачныя воку зоркі... — 195
*** Просіць сябар: «Давай спяём...» — 196
*** Хто ў багі, хто ў бажкі, хто ў прарокі... 197
Заклінанне — 198
На пароме — 200
Футбол — 201
*** Куды спяшаемся, ляцім?.. — 202
*** На падворку пахне глінаю... — 203

*** Падштурхоўвае ў спіну вецер... — 204
Малюнак лета — 205
Песні не паміраюць — 206
*** Ад начной прахалоды... — 207
Урок гісторыі — 208
Дальтонік — 209
А. Вазнясенскі ў Мінску — 210
Хор — 212
Аднаму знаёмаму — 213
Пілiпаўка — 214
*** Светлае дзіва: падае снег... — 215
Пісьмёны — 216
*** Напаі вадой каня... — 217
З сябрамі ў парку Горкага — 218
Чорны бусел — 219
Сустрэча — 221
Любоў мая — 222
*** Я з неба зор нікому не дарыў... — 223

КАМЯНІ АБХАЗІІ

Краіна душы — 225
Камяні Абхазіі — 227
На возеры Рыца — 228
Новы Афон — 229
*** Новаафонскія пячоры... — 230
Рынак у Гагры — 231
Верш, навеяны ўспамінам пра вячэру ў старога абхазца — 232
Знаёмства з морам — 233
Забіты дэльфін — 234
*** Як кветка белая магноліі... — 235
Спёка — 236
Бзыб — 237
Сухумскі поўдзень — 238
Дарога ўгору — 239
Юпшарскі вадаспад — 240
Балада пра чалавечнасць — 241
*** «Не глядзі так дзікавата...» — 243

Субтропікі — 244
Лоцман — 245
На цеплаходзе «Ластаўка» — 246
Вернасць гор — 247
*** Ах, мора! Не прасі мяне... — 248
*** Я палюбіў цябе, Абхазія... — 249

## ГРОНКА РАБІН

*** Павялі, заваражылі... — 251
*** Баюся прадказваць... — 253
Гронка рабін — 254
Раніца — 256
*** Ты — маё вяртанне ў маладосць... — 257
*** Трашчалі халады... — 258
*** Вось і канец нашай гамане... — 259
Незнаёмка — 260
*** На развітанне... — 261
*** Зашугаў вясновы зеленаграй... — 262
*** Ты з усмешкай прайшла ўсцяж ходніка... 263
Турысты — 264
*** Дык прыходзь. Будзем вечараваць... — 265
Успаміны пра пяты паверх — 266
*** Водар газона... — 268
Абкрадзеная — 269
*** Не. Я не узурпатар... — 272
*** Залётнай птушынай... — 273
*** След босых ног... — 274
*** Канапатая... — 275
*** Не заскуголю з болю... — 276
*** Сарамяжлівымі вуснамі.... — 277
*** За вясною — зноў зіма... — 278
*** Можа, і праўда гэта было?.. — 279

**Жук К.**

Ж 85 Пладаносны агонь: Вершы.— Мн.: Маст. літ., 1991.— 286 с., [1] л. партр.: іл.

ISBN 5-340-00644-1.

Жук К. Плодоносный огонь: Стихи.

Свет вобразаў і жыццёвых рэалій у новай кнізе Кастуся Жука паўстае ў філасофскім асэнсаванні дабра і зла, чалавечых набыткаў і страт. Аўтар спрабуе разабрацца, чаму грамадзянская актыўнасць адных натыкаецца на пасіўнасць і раўнадушша другіх, чаму ігнаруецца родная мова, прытупляецца гістарычная памяць, культывуецца абыякавасць да культурнай спадчыны свайго народа. Востра ставяцца ў кнізе маральна-этычныя і сацыяльныя праблемы, якія патрабуюць неадкладнага вырашэння.

Ж $\frac{4702120202-082}{М302(03)-91}$ 54—91 ББК84Бел7

●●●

Литературно-художественное издание

**Жук Кастусь Яковлевич**

**ПЛОДОНОСНЫЙ ОГОНЬ**

*Стихи*

Минск, издательство «Мастацкая літаратура»
На белорусском языке

Літаратурна-мастацкае выданне

**Жук Кастусь Якаўлевіч**

**ПЛАДАНОСНЫ АГОНЬ**

*Вершы*

Рэдактар Хв. Д. Жычка
Мастак У. І. Сытчанка
Мастацкі рэдактар А. М. Малышава
Тэхнічныя рэдактары Г. П. Тарасевіч, І. І. Дуброўская
Карэктар І. М. Паланейчык

ІБ № 3438

Здадзена ў набор 22.10.90. Падп. да друку 14.05.91. Фармат 70×90 1/32. Папера друк. № 1. Гарнітура звычайная новая. Высокі друк. Ум. друк. арк. 10,53+0,07 укл. Ум. фарб.-адб. 10,72. Ул.-выд. арк. 6,74. Тыраж 5000 экз. Зак. 890. Цана 1 р. 30 к.

Выдавецтва «Мастацкая літаратура» Дзяржаўнага камітэта БССР па друку. 220600, Мінск, праспект Машэрава, 11.

Мінскі ордэна Працоўнага Чырвонага Сцяга паліграфкамбінат МВПА імя Я. Коласа. 220005, Мінск, Чырвоная, 23.